# УЗДЫМ

## ЛІТАРАТУРНЫ ЗБОРНІК
## БАБРУЙСКАЙ ФІЛІІ МАЛАДНЯКА



ВЫДАНЬНЕ
БАБРУЙСКАЙ АКРУГОВАЙ ФІЛІІ МАЛАДНЯКА.
БАБРУЙСК. 1926

**І. Райсін.**

# Аб нашай філіі.

Калі для нашых клясавых ворагаў гучныя словы аб вольнасьці, раўнапраўі нацыяў, аб правох нацыяў на самавызначэньне і г. д., якія часта кідалі яны, служаць толькі шырмай для прыкрыцьця тых зьдзекаў і гнуснасьцяў, каторыя нярэдка імі над прыгнечанымі нацыямі ўчыняюцца, дык для нас пытаньне аб сапраўдным раўнапраўі ўсіх нацыяў, правільная пастаноўка і правільнае разьвязваньне, зьяўляецца пытаньнем каардынальнейшым.

І не пустымі словамі, ня струменем падсалоджаных прамоваў разьвязваецца ў нас гэтае складнейшае пытаньне. Бязустаннай, цяжкай работай, дзень за днём, год за годам, пад цьвёрдым, умелым кіраўніцтвам камуністычнае партыі, Савецкае ўлады, мільёны працоўнікоў, не пакладаючы рук працуюць над тым, каб у нашай краіне—былым вастрозе народаў—зрабіць сапраўднае, вольнае ў сьвеце, брацтва народаў, заснованае на сапраўдным, абсалютным раўнапраўі ўсіх нацыяў.

Камуністычная партыя—правадыр і кіраўнік мільёнаў, Савецкая ўлада—кіруючая праз дыктатуру пралетарыята, мільёны і дзесяткі мільёнаў рабочых і сялян з вялікай гордасьцю могуць зрабіць заяву, што ў справе разьвязваньня нацыянальнага пытаньня у нас дасягнуты агромністыя вынікі.

Асобнымі фактамі ня вычарпаць тых дасягненьняў, якія ў нас ёсьць. Усё быцьцё, усё шматвобразнае жыцьцё працоўных гушчаў нашага саюзу ўва ўсіх яе праявах, у пасьлякастрычнікавы пэрыяд яскрава і ясна аб гэтым гаворыць. Кожны працоўны нашай краіны усёй сваёй істотай адчувае то вялікае, грандыёзнае, што адбылось і адбываецца кожны дзень у нас у справе правільнага вырашэньня нацыянальнага пытаньня. Калі ўсё гэта правільна ў адносінах працоўных у СССР наогул, дык яшчэ ў большай ступені, яшчэ ў больш значных разьмерах гэта адносіцца да рабочага, селяніна, працоўніка нашае Соцыялістычнае, Савецкае Рэспублікі Беларусі.

Працоўным Беларусі, што перажылі у гісторыі сваёй жудасныя годы панаваньня цяжкага боту польскага жандара, які

імкнуўся расьціснуць усе жывое, што было ў нас беларускага; працоўныя Беларусі, якія па гэты дзень з больлю яшчэ ўспамінаюць аб мінулых днёх уладарства на Беларусі расійскага вурадніка і казацкае нагайкі, рабочыя, сяляны, працоўнікі, працоўная інтэлігенцыя нашай сучаснай Рабоча-Сялянскай Беларусі лепей, чым хто адчуваюць, як дзіўна вялікі нашыя посьпехі у справе практычнага вырашэньня нацыянальнага пытаньня.

Вялікая Кастрычнікаўская рэвалюцыя, што падарвала ў корані панаваньне клясы эксплёататараў радыкальнейшым чынам, што зьмяніла суадносіны клясавых сілаў, што паставіла ў горана кіраваньня рабочую клясу—гэгэмон нашае рэвалюцыі, толькі яна ўздоляла даць мажлівасьць дабіцца тых казачных вынікаў, каторыя ў нас ёсьць І ня дзіўна, бо ўва ўсім нашым соцыялістычным будаўніцтве, ува ўсёй тэй вялізарнай рабоце, якую мы, пад кіраўніцтвам Ленінскай Камуністычнае партыі, праводзім, работа па разьвязваньню нацыянальнага пытаньня, на грунцё аўтэнтычных ленінскіх наказаў—занімала і занімае бачнейшае мейсца. Рашучыя мерапрыемствы, накіраваныя да ўзьняцьця гаспадаркі і эканомікі нашае краіны, энэргічная работа па ўзьняцьцю культурнага ўзроўню нашых працоўных гушчаў, усебаковае абслугоўваньне нацыянальнасьцяў, што жывуць у нас, на іх роднай мове—вось тыя галоўныя каналы, па каторых работа па разьвязваньню нацыянальнага пытаньня працякала й працякае.

Я мысьлю, што ў асноўным моманце справы вырашэньня нацыянальнага пытаньня ў нашых умовах—у справе беларусізацыі—нашы посьпехі лягчэй за ўсё і навочней прасачыць на рабоце нашай маладой арганізацыі беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, рабоце „Маладняка“. Гэтая арганізацыя, яе гісторыя, працэс яе разьвіцьця і у канцы шырокі росквіт сёньняшнега дню—з вялікай навочнасьцю паказвае, як вялік працэс аднаўленьня, працэс адраджэньня нашае беларускае культуры.

„Маладняк“—няпрыметная, нядаўна яшчэ слабенькая арганізацыя адзінак—сьмельчакоў беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, за кароткіх, усяго 2 гады—вырастае ў моцную армію змагароў-будаўнікоў нашае пралетарскае культуры на Беларусі. Гэта нядаўна крохатная, цяпер магутная арганізацыя маладымі ўздымамі яе удзельнікаў, іх бадзёрасьцю і энэргіяй уносіць тое здаровае, пралетарскае, што неабходна нашай літаратуры.

Каштоўнасьць, вага нашай арганізацыі „Маладняк“ азначаецца папершае тым, што гэта арганізацыя, яе сябры, уся іх работа прасякнуты духам вялікага Кмстрычніка. І зьяўляю-

чысь, бяссумненьня, па духу сваёй работы і зьместу яе пралетарскай арганізацыяй, работаючы, як арганізацыя, якая мае цьвёрдую клясавую, пралетарскую плятформу, арганізацыя „Маладняк“ блізка, родная рабочым і сялянскім гушчам. Усё новае, што ўносіць у літаратуру „Маладняк“, як зьместам, так і ўтварэньнем новых формаў літаратуры, усё гэта хутка падхопваецца працоўнымі гушчамі і адразу становіцца іх здабыткам.

Гэтым тлумачыцца сталасьць „Маладняку“ за апошні час, гэтым тлумачыцца пасьпяхоўная работа гэтай арганізацыі ў мінулым і сучасным і яе бяссумненьня шырокія пэрспэктывы ў будучыне Гэтым жа азначаецца вялізны рост маладнякоўскай арганізацыі ўва ўсебеларускім маштабе і ў прыватнасьці цэлы шэраг посьпехаў у рабоце нашае Бабруйскае Акруговае філіі „Маладняк“. Сёньні, калі наша Бабруйская арганізацыя выпускае у сьвет свой першы літаратурны зборнік—колектыўную працу аб'яднаных у яе шэрагах працаўнікоў, мне хочацца сказаць некалькі слоў ня толькі аб станоўчых бакох работы нашае філіі, але і аб слабых яе бакох.

Першае—гэта адсутнасьць выстарчаючай выхаваўчай работы ў шэрагах аб'яднаемых ёю сяброў. Наша акруговая філія па гэты дзень ня ў поўнай меры яшчэ фармуе той тып маладнякоўца, які неабходны для гэтай арганізацыі. Гэта вялікі прабел. Слаба сувязь з шырокімі коламі рабочых і сялян Усё яшчэ наглядаецца значная замкненнасьць у самых сябе. І гэта ня добра. Слабае рабочае ядро нашай маладнякоўскай арганізацыі. І гэта прабел і надта значны. Наш „Маладняк“ уступіў ужо у вёску, але ён, амаль што, зусім не закрануў у нас горад. Зноў слабы бок.

У нашых маладнякоўскіх сьпевах ня дрэнна апяваецца жыцьцё, быт нашай вёскі—гэта добра, але, амаль што, зусім адсутнічае асьвятленьне фабрыкі, заводу, рабочага быту. Гэта нясумненны дэфэкт, пры тым дэфэкт значны. Па мойму—гэта грунтоўнае ў недахопах. Вядома, усе гэтыя недахопы няўхільны, іх можна растлумачыць, але розам з тым патрэбна глыбокая праца, сыстэматычная праца па іх зьнішчэньню. Да гэта і зрабіць зусім мажліва. Трэба больш увагі жыцьцю, рабоце нашай маладнякоўскай арганізацыі з боку камсамольскіх і партыйных ячэяк, больш зацікаўленасьці да маладнякоўскай арганізацыі, болей чуткі падыход да іх патрэб і запытаньняў. Шырэй і глыбей выхаваўчая работа сярод нашага маладнякоўскага кадру, большае кіраўніцтва імі ў іх цяжкай рабоце. Мацнейшая і большая сувязь маладнякоўцаў з шырокімі гушчамі фабрык, заводаў, вёскі. Болей жывой сувязі з

імі маладнякоўскай арганізацыі у цэлым, кожнага маладнякоўца паасобку.

Больш рашучае, чым па гэты дзень, уцягненьне ў шэрагі маладых паэтаў і пісьменьнікаў з ліку лепшых рабкораў і селькораў—рабочых і сялян, якія пачынаюць пісаць. Болей увагі ў літаратурнай рабоце асьвятленьню пытаньняў гораду, фабрыкі, заводу, рабочага быту. Бліжэй к быту, жыцьцю, рабоце самой вёскі і больш поўны і глыбокі адбітак іх у літаратуры.

Вось, прыблізна, мне здаецца, асноўнае ў рабоце нашай маладнякоўскай арганізацыі на бліжэйшы час. Посьпехі і дасягненьні ў рабоце за мінулы пэрыяд служаць лепшым залогам таму, што наша маладая арганізацыя „Маладняк" цалком справіцца з тымі задачамі, каторыя перад ёю стаяць. У гэтай складанай, цяжкай, адпаведнай, але разам з тым, і ў вышэйшай ступені узьдзячнай рабоце—пажадаем ім посьпеху.

---

Міхась Лынькоў.

# Пройдзены шлях.

Бабруйская філія Маладняка (Усебеларускае Аб'яднаньне паэтаў і пісьменьнікаў) заснавалась у маі месяцы мінулага году. У склад філіі ўвашло каля 7 чалавек, у большасьці сваёй сялянскія хлапцы.

Спачатку былі значныя перашкоды ў працы філіі. Летні пэрыяд—гэта раз, а па другое, у далейшым большая частка хлапцоў, заснаваўшых філію, паразьехаліся хто куды з Бабруйшчыны: хто вучыцца, хто на службу ў другія гарады і ў Бабруйску засталося толькі 2 чалавекі.

Трэба было пачынаць усю працу ізноў. Што-ж мы маем цяпер, на другі год існаваньня філіі? Хваліцца занадта не прыходзіцца, але трэба сказаць, што некаторыя дасягненьні ёсьць і ў нас. За гэты год выяўлены і ўцягнуты ў працу ўсе, больш менш здольныя мастацкія сілы вокругу. Філія аб'яднае цяпер каля 9 чалавек, з якіх 3 жыве ў Бабруйску, а рэшта ў вёсках, па раёнах.

Акрамя, гэтых 9 чалавек, якія шчыльна зьвязаны з філіяй і працуюць стала, рэгулярна, выяўлена яшчэ па вокругу болей 20 чалавек, маючых імкненьне да мастацкай творчасьці і маючых, вядома, некаторыя да гэтага здольнасьці. З ліку гэтых 20 чалавек магчыма неўзабаве чалавекі са 3 залічыць у Маладняк.

Такі склад нашае філіі. З 9 чалавек 5 партыйцаў і камсамольцаў. З боку сацыяльнага становішча, паходжаньня нашых маладнякоўцаў—справа куды горшая Большасьць сяляне. Рабочых з заводаў і фабрык ані воднага чалавека, калі ня лічыць 2—3, у якіх бацькі былі рабочыя.

Некалькі слоў аб творчасьці. Што-ж, казаць нечага, хлопцы стараліся, пісалі, знаходзілі заўсёды прытулак на старонках нашае акруговае сялянскае газэты „Камуніст“. Вядома, зьмяшчалась толькі самая нязначная частка напісанага, бо шмат яшчэ трэба папрацаваць над сабой, шмат павучыцца кожнаму з нашых маладнякоўцаў, каб пісаць болей меней добра. За-

надта яшчэ кульгае і зьмест, і тэхніка нашых твораў, надрукаваных да гэтага часу.

Але і тут ёсьць некаторыя посьпехі: творчасьць нашых маладнякоўцаў з кожным месяцам паляпшаецца, павялічваецца яе грамадзкая каштоўнасьць, паляпшаецца мастацкі бок, хлопцы вучацца, чытаюць, выхоўваюць сябе на грунце пролетарскай ідэолёгіі. Калі параўняць верш якога-небудзь нашага маладнякоўца, напісаны ў 1925 годзе з вершам, напісаным у гэтым годзе, дык можна заўважыць даволі значную розьніцу.

Усе нашы творы зьмяшчаліся да гэтага часу ў літаратурным кутку газэты „Камуніст". Куток выдаваўся амаль што кожны тыдзень. Зборнік гэты—наша першая спроба вывесьці на болей шырокі сьвет, як кажуць, нашых пачынаючых поэтаў і пісьменьнікаў.

Цяпер аб недахопах у нашае працы, а іх куды болей, чым пасьпехаў. Папершае, не зусім спрыяючыя нашай працы об'ектыўныя ўмовы. У самім Бабруйску няма больш менш буйных сярэдніх і вышэйшых школ, як, напрыклад, тэхнікумаў і г. д. Адсюль—адсутнасьць у самім горадзе такіх асяродкаў, дзе можна было-б шырока разгарнуць маладнякоўскую працу сярод моладзі. З гэтай-жа прычына ядро нашае філіі—бюро хварэе, і прызнацца, хронічна хварэе, калі не на сухоты, дык на малакроўнасьць—няма людзей, а з двумя трымя чалавекамі ў горадзе—не разгонішся. Праўда, у бліжэйшыя часы мы робім усе магчымыя для нас захады, каб перацягнуць, перакінуць некаторых таварышоў у Бабруйск. І ёсьць надзея, што нам удасца стварыць да зімы моцнае, працаздольнае ядро нашае організацыі.

Усе нашы маладнякоўцы, а таксама і пачынаючыя толькі пісаць, жывуць у большасьці па аднаму, па два чалавекі ў раёнах. Гэта перашкаджала пакуль што ўтварэньню сталых літаратурных гурткоў. Перашкаджае гэта і правядзеньню планавай працы па выхаваньню нашых таварышоў, як маладнякоўцаў. У бліжэйшы час маем на ўвазе ўтварэньне такіх гурткоў у болей насяленных мясцох акругі, як у Рагачове (маюцца вельмі спрыяючыя ўмовы—там знайходзіцца пэдтэхнікум, ёсьць студэнты маладнякоўцы, хапае моладзі), у Асіпавічах і г. д. Трэба болей разварухнуцца і вучням Чырвона-Бераскага сельска-гаспадарчага тэхнікуму і лясной школы на Чырвоным Кургане ў Кашалеўшчыне.

У Бабруйску організоўваецца цяпер літаратурны гурток Маладняка пры саюзе народнай асьветы.

К значным недахопам трэба аднесьці адсутнасьць правядзеньня філіяй шырокай грамадзкай працы сярод мас на-

шага жыхарства, якое зусім пакуль-што не знаема з нашай арганізацыяй, з яе мэтамі і задачамі. Правядзеньне спэцыяльных вечароў, ці выступленьняў—наша неадкладная задача, аб чым кожны маладняковец у кожным раёне павінен заўсёды памятаць і праводзіць пры кожным выпадку ў жыцьце, наладжваючы гэтыя выступленьні на розных вечарох, спэктаклях і г. д.

Нашы задачы на далейшае. Выяўляць і ўцягваць ў маладнякоўскую працу творчыя сілы вокругу, зьвярнуўшы асабліва вялікую ўвагу на ўцягваньне рабочых, якіх у нашых шэрагах яшчэ няма. Самае сталая, сур'езная праца па выхаваньню і належнай вучобе нашых таварышоў. дзеля чаго ўсім маладнякоўцам прыняць самы гарачы ўдзел ў арганізацыі беларускіх літаратурных гурткоў імя Маладняка. Папоўніць нашу акруговую маладнякоўскую бібліотэку марксыцкай літаратурай а таксама спэцыяльнай літаратурай па тэорыі мастацтва. мастацкага слова і г. д. Шырокая популярызацыя справы Маладняка.

І яшчэ задача—сур'езна, сыстэматычна рыхтавацца да выданьня другога зборніка, бо вядома, з «Уздыму» да пакаціцца ўніз нельга. Узьняліс трохі—трэба узьнімацца вышэй іначай нельга.

# ВЕРШЫ Я. ІВАШЫНА.



## Маладняцкая песьня.

Ня стрымаць,
Ня спыніць
Нас сягоньня
Ў нашай працы
Мяцежна-разгоннай!
Ўсё шырэй маладняцкія гоні:
Свайго часу мы марна ня трацім.

Маладняк, сьмялей наперад!
Гэй, шчыльней самкнем рады:
Хай ўвесь сьвет убачыць поступ
Маладняцкай грамады!

* * *

Мы імкнёмся
З сталёвым
Запалам
Будаваць
Жыцьця новага казку,
Каб краіна лапцюжная зьзяла
Жыватворным заранкавым бляскам.

Не зялёны бор прадвесьняй
Прывітае сьпевам май, —
Маладняцкай буйнай песьняй
Звоніць радасьць родны край.

* * *

Ужо скончаны
Мукі
Краіны,
Змоўк навекі
Сьпеў нудна-хаўтурны.
Палац працы на месцы руінаў.
Больш ня ўбачым мы твараў пахмурных.

Маладыя сілы краю
Жыватворчасьцю бурляць:
Нас бадзёрыць-уздымае
Камунараў гартных рацъ.

* * *

Гэта йдзе
Беларусь
Маладая
Беларусь барацьбы
І перамогі,
А старое ўжо ўсё вымірае, —
Вось чаму нам ня грозны трывогі.

Маладняк, сьмялей наперад!
Гэй, шчыльней самкнём рады:
Хай ўвесь сьвет убачыць поступ
Маладняцкай грамады!

# Гудкі.

Сонцавейнымі крыльлямі раніца
Атуліла зямлю кветнакудрую.
Паплавы за ракою туманяцца, —
Песьняй косаў
Прачнулісь
Яны.

Сьпевам-гымнам, да працы ўзды-
[маючым,
Крыкам птушкі дзівосна-чароўнае,
Рыкам зьвера шалёна-магутнага
Працінаюць
Паветра гудкі.



Яны з горлаў заводаў імкнуцца,
Ў перагонкі гуляюць высока,
Буйны горад варушаць калышуць
І паволі
Зьнікаюць
Здалёк.

Слупы дыму ад комінаў стромкіх
Падпіраюць далёкае неба,
Кучаравымі доўгімі мётламі
Расьпісалі
Блакітны
Абшар.

Сьпевам-гымнам, да працы ўздыма-
[ючым,
Крыкам птушкі дзівосна — чароўнае,
Рыкам зьвера шалёна — магутнага
Працінаюць
Паветра гудкі.

Але гуд той — ня кліч да няволі,
То ня кліч пад ярмо прыгнячэньня:
Гудкі клічуць да вольнае працы,
Да тэй працы,
Што шчасьце
Нясе.

У закапцелых гудзячых заводах
Загартованых рук міліёны
У адзін момант, бы волат дзівосны,
Уздымаюць
Цяжкія
Кляўцы.

Разьлятаюцца іскры віхорам,
Сталь сьпявае аб зьлітнасьці — гарце,
І сымфонія сталі і працы
Поўніць сэрца
Надзорнай
Красой...

Дык аб чым-жа сьпяваюць заводы
Па — над горадам бурна-мяцежным,
Калі раніца крыльлямі — золатам
Атуляе
І песьціць
Зямлю?

Гымн адзінства сьпяваюць заводы,
Што ўздымае пачуцьце супольнасьці,
Што вядзе к сонцу—шчасьцю працоў-
[ных,—

Ўсяму сьвету
Сьпяваюць
Яны,

Што праца ў краёх пролетарскіх
Монолітнасьцю — гартам сагрэта,
І працу магутную гэту
Не пераможа
Ніколі
Ніхто!

## Песенны хмель.

Сэрца ўсьпенілась песенным хмелем,
Нібы мора віхорным паўстаньнем,
І стаў я ізноў маладым
У гэта маёвае раньне,
Калі ў бель апранулісь сады.

Калі салавей гулказвонны
Ў кустох бэзу сымфонію грае
Сонцавейнай красуні — вясьне, —
Ў гэты момант душа не засьне,
Бо ў сэрцы зьвініць водгук мая.

Калі прозолаць неба іскрыцца,
Граюць гымны вясны навальніцы,
А за вёскай сьпяваюць выгары, —
Ў маім сэрцы праменяць маланкі,
Мае думкі купаюцца ў чарах.

Я спаткаў май чырвоны сягоньня
На раздольлі зялёных палеў.
Адчыніла вясна дзівы — скроні;
Дзень шумлівы прыпеўкамі звоніць,
А з праменьняў вянок сабе сплёў...

Сэрца ўсьпенілась песенным хмелем,
Песьні ўюцца ў вянок златазвонны
І сплятаюцца з плыньню жыцьця...
Не цьвяроза ты, песьня, сягоньня,
Ты маёвага раньня дзіця.

## Мне вясна ўсьміхнулась сёньня...

Мне вясна ўсьміхнулась сёньня
Жыватворчым златаблескам.
Ой, пайду я ў чыста поле
На сялянскія загоны. —
Вочкі сінія пралескі
Расцалую на раздольлі .

У чыстым полі на прасторы
Веснавеі ладзяць гулі,
Ладзяць з сонцам баль шчасьлівы.
Ім тут граюць птушак хоры.
Лозы ніцыя прачнулісь
І вітаюць сонцам нівы.

Разьвярнулісь лепясточкі.
П'юць расу — сьлязінкі раньня.
Ліпнуць к кветкам мушкі, пчолкі,
Зьзяюць срэбрам матылёчкі.
У сонца гулях — калыканьні
Карагодзяць з ветрам зёлкі.

Сонца мые свае косы
У хвалях рэчкі срэбралітай
Дзе мігцяць — гуляюць рыбкі.
У паплавох крышталяць росы.
Рэчку, пушчу, луг і жыта
Песьціць сонца промень зыбкі.

## У вясновую ноч.

Над полем, над вёскай, над садам
Расплясканася радасьць вясновая
Сад асьнежаны ў цьвецень мядовую.
Засьмяяліся яблынь прысады
Салаўём закаханым, шчасьлівым

Углядаецца пільна у вецьце,
Углядаецца месяц бялявы.
Ветрык лашчыцца водарна — млявы.
Шчасьцем ядраным месяц мне сьве-
[ціць
І карункі узораў сплятае.

А за вёскай усходы рунеюць,
Аксамітам міняцца зялёным.
Месяц лашчыць рунёвыя гоні,
Прасьціраючы рукі — праменьні
Шчасьцем хмельна прырода сягоньня...

Не пазнаў сваю вёску я сёньня:
Вёска новымі песьнямі звоніць.
Сьпеў за рэчку паслом заструменіў —
Абудзіліся зорнасьцю далі,
Што журбу на грудзёх калыхалі.

Мая вёска, жыцьця маладуха,
Запляла сёньня кудры праменьнем:
Жыцьцём новым яна ўжо струменіць,
Бо ўзяла сабе шлюб з хлопцам — зухам,
Што прышоў к ёй з сырых сутарэньняў.

## На кветным улоньні.

Сёньня з першай песьняй раньня
Я пашоў у поле
Любавацца,
Пацяшацца
Сонцам і прывольлем...

Вось я ў полі —
На раздольлі;
Тут мае загоны.
А душа сьпявае птушкай, —
Шчасны я сягоньня.

Тут красуе,
Прамянюе
Жыта і пшаніца,
Сонца шчыра тут сьмяецца,
Поле залаціцца.

Васілёчкі зьзяюць шчасьцем,
Бо іх сонца песьціць.
Тут зарніцы,
Навальніцы
Мне сьпяваюць песьні.

Мітусяцца матылёчкі
Кліньнямі ў паветры.
На загонах
Тут гамоняць
Мне зямныя нетры.

Каласочкі
Ўдзень і ўночку
Шэпчуць дзівы-казкі
Хмелем-шчасьцем маё сэрца
Напаўняюць краскі.

П'ю я радасьць,
П'ю я сладасьць
Сонца, сьпеваў, кветак,
І вясёлы
І бадзёры
Йду я праз палетак.

Заразіць хачу я шчыра
Цэлы сьвет сягоньня
Шчасным сьмехам,
Песьняй-рэхам
З кветнага улоньня.

Гэй, сябры, сюды хадзеце,
У каго боль на сэрцы:
Песьні, краскі,
Сонца ласкі
Не дадуць памерці!...

## На сенажаці.

Толькі пырснулі сонейка косы
На зялёны дыван—сенажаць.
А ўжо буйныя пацеркі-росы
Дыямэнтамі
Зьзяюць-
Гарацы.

Косы вострыя бліснулі срэбрам—
І трава б'е паклоны касцом,
Замільгалі зялёныя хвалі,
Закіпела
Работа
Кругом.

Звоны жаўранка, сьвежае раньне
Узмацнілі касцоў маладых.
Ім ня страшна гарачая праца:
Шмат ёсьць сілы,
Упартасьці
У іх.

Касцы ведаюць добра, што сёньня
Яны вольнага краю сыны,
Што з рабочымі ў шчыльным хаўрусе
Жыцьцё-шчасьце
Будуюць
Яны...

Вунь дзяўчаткі варочаюць сена:
Песьні льлюцца, званочкам зьвіняць
І чаруюць сваею аздобай
І касцоў,
І палі,
І сенажаць.

Выйшаў з лесу з блішчастай трубою
Малады кучаравы пастух
І заслухаўся песьняй дзівоснай,
Што калыша
І пушчу
І луг.

Вунь ідуць з вёскі з клумкамі дзеці,
Нясуць полудзень смачны касцом.
Тут ім будзе такое раздольле,
Што забудуць
І вёску
І дом.

Угары жаўручок срэбракрылы
На спатканьне ім песьню пяе.
Пакуль будуць касцы сілкавацца,
Яны гульні
Наладзяць
Свае...

Сонца зьвесіла кудры над лесам,
І цалуе траву агнявей.
Заскрыпелі вазы па дарозе;
Галасы
Па-над лугам
Званчэй.

Вось хмурынка ўсплывае з-за лесу,
Прагучэў дзіўнай музыкай гром.
Скора траўка пап'ецца вадзіцы,
Скора будзе
Спачынак
Касцом.

## Жніво.

Золатам бліскае сьпелае жыта,
Морам хвалюецца лог.
Цэльнае войска жанчын на загонах;
Праца кіпіць на палёх.



Хай сабе сьпека пячэ несьцярпіма,
Жнеям ня грозна яна:
Вольная праца ўзьвіхорыла сілы,
Згінуў прыгнёт і мана

Жніўныя песьні зьвіняць над палямі,
Душу ўздымаюць людзём.
З песьняй вясёлаю спорыцца праца,
Валіцца сноп за снапом.

Піснуў дзяцёнак маленькі ў калысцы.
Жнейка дажала снапок,
Пільна калыша, ўнімае малога.
Сьціх.. Яна зноў за сярпок.

Часам шугне ў полі ветрык—і зьнікне;
Ціха навокал ізноў.
Чуецца шопат калосься ды скрогат
Вострых сталёвых сярпоў.

Сьпека пад вечар сьціхае паволі,
Хіліцца сонца к зямлі.
Праца дружней адвячоркам у полі.
Цені ад бабак ляглі...

Дзень патухае... Вясёлыя жнейкі
Ў вёску ідуць грамадой
Гучнаю песьняю звоняць прасторы
Ціхай вячэрняй парой:

„Сёньня ўсё поле сваё зваявалі
Мы на радзімай зямлі;
Толькі змагаліся тут не мячамі,—
Бойку сярпамі вялі...“

## Звоніць сэрца...

Звоніць сэрца песьняй зорнай,
Льлюцца гукі-пералівы,
Льлюцца водгульлем бурлівым
І нясуцца над палямі
Ў сьвет далёкі, ў сьвет прасторны.

Перамогі слаўнай сьцяг
Узьнімаецца ў краіне.
Сьвет стары ў прадоньні гіне.
Ой, вясёлкай прамяніцца
Сонца новага жыцьця.

Дзе сьпяваў шрапнэлі лёскат,
Дзе былі руінаў зданьні,
Дзе лілася кроў змаганьня,—
Зараз там бурляць-крынічаць
Творчай працай горад, вёска.

Струн вясёлых разразвон
Не замоўкне, ой, паверце,
Бо пяю буяным сэрцам
Гымны сонечных прастораў
Аб красе сьвятляных дзён.

Я ніколі наре скуся
Перад хмараю жыцьцёвай.,
Кветкі-ружы дум маёвых—
Шчыры дар душы мяцежнай—
Шлю Чырвонай Беларусі.

## Жыцьцё.

Жыцьцё наўкол
Буяна вірыць,--
У даль вякоў
Імчацца хвалі ..
І цуд жыцьця ўсё шырай, шырай.
Ляцім
У сонцавейны
Вырай,
  Дзе сьмяюцца шчасьцем далі,
  Дзе вясёлкі звоняць песьню,
  Дзе разгонна, дзе ня цесна.

* * *

Жыцьцё бурліць,
Жыцьцё віхорыць,
Нашчэнт руйнуе
Ўсё старое.
Ва ўсьпененым жыцьцёвым моры
Струменяць
Песьняй-сонцам
Хоры.
  То сьпявае маладое
  Гымны слаўнай перамогі,
  Пракладаючы да шчасьця
  У палёх шляхі-дарогі.

* * *

Жыцьцё
Кавадлам-працай звоніць—
І іскры сыплюцца пажарам;
Праменіць чырвань
Вёсак гоні.

А ветры
Буйныя,
Бы коні,
Гойсаюць, дратуюць хмары,
Каб сьмяялась сонца бляскам,
Каб цьвілі бясконца краскі.

* * *

Жыцьцё сьпявае
Звонам-гудам,
І поўняцца
Тым сьпевам грудзі...
Ці-ж воддаль слупянець я буду?!...
Ой гэтага
Вавек
Ня будзе:
Я зьліюся з буйным рухам,
З рухам зыркім, што вулькан̆іць,
Што бадзёрыць чырвань-раньне!..

* * *

Жыцьцё наўкол
Буяна вірыць,
У даль вякоў
Імчацца хвалі
І цуд жыцьця ўсё шырай, шырай...
Ляту і я
У сьвятляны
Вырай,
Дзе сьмяюцца сонцам далі,
Дзе заранкі звоняць песьню,
Дзе разгонна, дзе ня цесна.

**Васілёк.**

# З пражытых год.

**(Апавяданьне)**



ВАСІЛЁК

Ціха, як у магільным склепе.

Толькі ноччу завывае віхура, кідае ў цёмныя вокны жменямі жорсткага сьнегу, сьпявае хаўтурныя песьні ў халодных комінах—то голад, спазнаўшысь з халадам-братам, баль карагодзяць на вуліцы, над полем бязьмежным гульні шалёныя водзяць, уздымаюць сьнегавыя гурбы, кідаюць іх, як пушынкі па ветру і гудуць, завываюць воўчым воем, замятаючы сьцежкі людзкія. Скачуць і рагочуць, жартуюць з саламянымі стрэхамі, чухрыняць іх халоднай пяшчотай, і ўскудлачаныя стрэхі, нібы чупрына мерцьвяка, бязвольна хіляць па ветру свае валасы-саломіны.

Ціха і пуста ў вёсцы Саламянай. Разбрэўся людзкі муравейнік шукаць по сьвету долі і шчасьця. Шчасьцем для саламянцаў было: знайсьці звычайны, чорны і жорсткі, як людзкая доля, кавалак хлеба і бачыць гэты кавалак кожны дзень і кожную гадзіну на сваім стале. Але год быў які, што рэдка, рэдка калі пападала ў рукі гэта найвялікшае, надзвычайнае шчасьце.

Ціха і пуста на вуліцах. Не скрыпяць жураўлі над калодзежамі, ня чутна звонкіх песен дзяўчат, ня чутна паначы галасістага пеўня і раніцай з комінаў застыглых ня ўецца блакітнымі пярсьцёнкамі празрысты дым, што раней ласкава казытаў нос падарожнага жывучым пахам чалавечага жыльля.

У Васілёвай хаце яшчэ варушыцца жыцьцё. Самаго Васіля няма—чатыры дні таму назад, узяўшы хамут (каня даўно зьелі) і што-колечы лепшага з адзёжыны, пашоў ён у сьвет сыскаць чаго-небудзь, каб адагнаць ад роднай хаты зялёна-

шэрую здань—галодную сьмерць.

У хаце Васілёва жонка Марыля, да трое дзетак. Капышуцца дзеці на печы халоднай, пішчаць, як ваюны на марозе, ня плачуць (няма сілы—пяць дзён нічога ня елі) і ня голасам, а якімсьці піскам падземным скаголяць:

— Ма-а-ам, есьці дай, дай хлеба....

— Дай хлеба-а-а...

— А-а-а...

Быццам ня слухае маці. Сядзіць на куту нярухома пад шэрым, абвісшым з багоў павучыньнем. Абпёрлась шчакой на далонь і позіркам дзікім уставілась на дзьверную клямку, асьнежаную марозам. З бруднага рызьзя вылязьлі зямляна-шэрыя войстрыя плечы, вочы сьвецяць чорнымі занікшымі плямамі, васковы завойстраны нос жаўцее сярод шэрых ямак-шчок і пасівеўшыя косы мохам агарнулі Марылін твар. Хто скажа, што гэтай старой толькі, толькі мінула дваццаць шостая вясна чалавечага жыцьця...

Аб чым думае Марыля? Не аб чым. Ды й аб чым думаць? Думаць аб будучым страшна, раскалупваць раны мінулага цяжка і сумна, бо будучае і сучаснае ў параўнаньні з пражытымі гадамі будуць яшчэ страшнэй, яшчэ цяжалей будзе сэрцу, якое й так ня жыве, а ледзь-ледзь трапечыцца ў жалезных кляшчотках нявыразнага гора.

Калі і зьяўляецца часам, як у шызым тумане, няясная думка. дык толькі хіба а бліжэйшых днёх. Пяць дзён таму назад зьелі апошнюю жменьку таго, што толькі можна было знайсьці ў хаце і ў двары зьядобнага. Лебяда і прасянка даўно вышлі з клеці. Жыўнасьць, якая была па хлявох, пайшла ў чыгуны яшчэ пад восянь. Потым паелі застаўшыяся ад жывёлы скуры, даставалі са дну возера твань, прыбярэжнае багавіньне, сушылі гэта, малолі, пяклі хлеб.

Пашлі затым у ход лапці, старыя атопкі ліпавыя, луцьце —усё гэта мылі, высушвалі і малолі. І пяць дзён таму назад зьелі апошнюю аўчыну. Паабскубла Марыля шэрсьць на ёй, доўга, доўга варыла і елі ўсе захлібаючысь, хоць і ванюча, і горка была брыдкая жыжка. А цяпер і гэтага няма. Застаўся толькі адзін новы прыгожы кажух, але Васіль забраў яго з сабой, каб абмяніць дзе-небудзь на жменю збожжа, ці лебяды.

— Хлеба дай, хлеба-а-а...

— А-а-а-й...

Ах, гэты дзеці...

Зірнула на іх Марыля і бязучасны позірк акамянеў яшчэ болей. На каго яны цяпер падобны. Ускудлачаныя валасы, заместа калісьці прыгожых ружовых тварыкаў нешта страшнае, зморшчанае, як тое печанае яблыка, сінія, тонкія пальцы, зчарнеўшыя цельцы, на якіх хадуном ходзяць вострыя, заняпаўшыя рэбры і толькі вочкі, як тыя агні вугольчыкі коляць іголкамі матчына сэрца, не даюць яму супакоіцца, агортваюць гэта сьпекшаяся сэрца яшчэ застаўшыміся жывымі каплямі крыві, уздымаюць матчына пачуцьцё, будзяць трывожна застыгшы розум.

— Хлеба дай, хлеба-а-а...

— А-а-й...

Узьнімаецца Марыля, ідзе да дзяцей, ухутвае іх пацяплей, гладзіць рукой па шаршавых галоўках, лашчыць і песьціць матчынай ласкай. Прыціхлі дзеці, але ненадоўга. Ізноў:

— Хлеба-а-а-а...

— а-а-а-й-ай...

— Пачакайце, мае любыя, вось прыдзе татка, прынясе і хлеба, малака прынясе і ўсяго будзе многа, будуць і сала і крупы, і мяса, звару смашную вячэру, будзеце сыты, будзе нам весела, засьпяваем вясёлыя песьні, як пелі мы ў мінулым годзе на полі, калі жалі пшаніцу. Усё будзе, міне мароз і пойдзем мы вясной гуляць у луг, красак нарвём, саўём веснавыя вяночкі. О як добра, як хораша будзе ў полі, толькі пачакайце, прыдзе татка, будзе смашная вячэра...

І пацякла сьлюна ў няшчасных дзяцей. У самой Марылі так салодка зрабілась у роце, так страшна, так шалёна захацелася есьці, што бясьсільна пасунулась яе зьнядужэўшае няпрытомнае цела на брудную падлогу.

* * *

Раніца ўсход засьвяціла блядай чырваньню. Хутка халодны прамень сонечны брызнуў па стрэхах, заіскрыўся ў сьнегавых гурбах, палахліва зірнуў праз вакно ў пустую хату, зайчыкам прабегся па запечках. Любіць сонца ракіцой назіраць за парадкам, прыгледзіць за тым, каб людзі ў час уставалі, за працу браліся дзённую. Але ўсюды пуста, ўсюды ціха. Нечага й сонцу рабіць, засаромілась яно і схавалася за сьнегавыя хмаркі і зноў шэра на зямлі, бяспрыветна.

Марыля прачнулася і нярухома ляжыць на палацях, уставіўшы вочы ў чорную столь. Завінулась было спачатку: трэба кароў папаіць, запаліць у печы, за вадой пайсьці, але потым уздрыгануўшысь, успомніла... і мільганула думка, што лепей

было-б зусім не ўставаць, добра й прыгожа у сьне, хоць і сноў чароўных, як бывала, не відаць, зато супакой і нібыццам адвечная салодкая цішыня на душы, калі знайходзішся, здаецца, у блакітным тумане, які, як мягкаю воўнаю, лебядзіным пухам агортвае кволае цела і чалавечы розум

Добры сон-чараўнік, але ня любіць ён песьціць у патрэбныя чалавечай душы хвіліны. І колькі ня кідайся чалавек, колькі не напружвай сваю волю і сілы, хоць бíся галавой аб глухія сьцены, колькі не прасі ў думках, каб прышоў ён, дарагі збавіцель ад непамернай пакуты, ня прыдзе па просьбе сон залаты, бо мае ён свой звычай, свае законы.

А есьці Марылі зусім ня хочацца, на што ёй яда, брыдка падумаць аб ёй. Вось толькі млява ў целе, дзервянеюць рукі і ногі, у вачах зялёныя, чырвоныя, лілёвыя агоньчыкі мітусяцца і іншым часам, калі заплюшчыць Марыля вочы, здаецца ёй, што ляціць яна кудысь у глыбокае бяздоньне, шпарка, шпарка ляціць, што аж грудзі сьпірае і так соладка заміраесэрца, нешта комам вялікім падкатваецца к горлу, аж дыхаць становіцца цяжка, стыгне кроў у жылах а... дна ўсё ня відна і ляціць і ляціць, няма супынку.

Адкрые Марыля вочы, на сьцены, на столь пазірне і здаецца ёй, што й падлога, і сьцены і столь то апускаюцца ўсё ніжэй і ніжэй, то ўздымаюцца высока ў гору, то нібы скачуць у якімсьці карагодзе шалёным, затым калышуцца так лёгка і так прыгожа, нібыццам жоўтыя кляновыя лісты летаюць з дрэў ядранай восеньню, ці лёгкія шэрыя і белыя пушынкі лётаюць па вольнаму ветру.

І хочацца Марылі яшчэ заснуць, каб не бачыць голыя сьцены, не палохацца іх таемных скокаў, жудаснага калыханьня.

Але што гэта? Нібы прыдушаны зьвярыны крык, нібы позыў савы цёмнай ноччу ў лесе—слабыя гукі, якія мацнеюць з кожнай хвілінай, шырацца ў хаце, канчаткова туманяць розум, ідуць з печы.

—А-а-а-ай ай...!

Напружылась Марыля апошнімі сіламі, чуць узьнялась, упала раз, але сабраўшы сілы, устоіла на нагах і пасунулась паўз сьценку да печы. Глянула, што з дзяцьмі і аслупянела. Коўзаліс дзеці ў жывым клубку, перапляліся рукі і ногі, перапляліся так моцна, нібы зьмеі ў балоце дзе-небудзь пад старым карчом, сабраўшысь у зімовую зьмяіную мярлогу, Адросшымі кіпцюрамі сухіх, сініх пальцаў ўпівалісь адзін аднаму ў твар, празрыстыя рукі і ногі былі абшарпаны да крыві, кры-

вёю былі запэцканы твары, на запекшыхся вуснах чырванелася кроў і вочы дзяціныя гарэлі злавеснымі, нібы зялёнымі вагоньчыкамі. Дзеці кусалі адзін аднаго, кусалі бясьсільна, але ўпарта, нібы кожны хацеў пажраць другога. І ніхто з іх не паглядзеў на сумную матку, якая з нахіленай галавой, амаль што ні страціўшы розум, з ціхай жудасьцю пазірала на іх. І кожны з дзяцей ціха стагнаў, бо крычаць ня меў сілы.

— Мае любыя, мае каханыя дзеці, а цяпер... зьвяркі лесавыя, пад карчом узгадаваныя...

Яшчэ-б хвіліна і чалавечае сэрца ня вытрымала-б, разарвалась бы на соткі частак, але матчына пачуцьцё ўзяло верх.

Хутка параскідвала дзяцей у розныя бакі і ня гледзячы на тое, што яны кусалі яе да крыві за рукі, пазьвязвала ім рукі і ногі і разлажыла ўсіх па розных кутком хаты, напяіла вадой і супакоілісь трохі дзеці, перасталі біцца ў сударгах і заснулі хваравітым чуткім сном.

Падышла Марыля к сталу, упала на калені і абхапіўшы рукамі шыю ўпілась вачыма ў вобраз таго, каго людзі часам лічаць усемагутным, вялікім і вечным.

— Божа праведны, ці ты шкадуеш літасьці к маяму матчынаму сэрцу, ці табе-ж хочацца сьмерці гэтых ня ў чым непавінных дзяцей. Зьлітуйся, адвядзі ад іх нябесную кару, пакарай мяне сьмерцю, а ім дай жыцьцё... Божа вялікі, адвечны... дапамажы маім сьлязам, адхілі сьмерць, дапамажы няшчасным дзецям, яны сьлязамі адмыюць твой векавечны, вялікі прастол...

І біла галавой аб падлогу, ламала сабе рукі, рвала няпрытомна валасы і адзеньне і бог... бязучасна глядзеў халоднымі вачыма на ўсё, толькі рызы на вобразе зіхацелі пазалочанай медзьдзю, ды ціха, важна прайшоўся па божай барадзе сівай пэсыміста з пэсымістых на сьвеце-шэры павук.

— Хіба к папу схадзіць—неяк міжвольна мільганула ў думках Марылі, ён-жа багаты і толькі ён застаўся на вёсцы, усёж дапаможа чым-небудзь, калі ня мне, дык дзецям...

І накінуўшы на плечы кой-якоя рызьзя Марыля пасунулась з хаты.

* * *

А Васіль сьпяшаецца дамоў. Цяжка ісьці па сьнегавых гурбах, дарогі замяло, да і хто езьдзіць цяпер. Не дарога, а бязьмежнае сьнегавое поле і толькі векавыя бярозы паказваюць пуць. Сьнег у пояс, праз іншыя гурбы не перабярэшся начай, як толькі паўзком,

Цяжка перастаўляць станіўшыяся ногі, але падганяе радасьць, вялікая, надзвычайная радасьць: у кайстры, што вісіць праз плячо, цэлы пуд, толькі падумайце, самы запраўдны, не абы які пуд... мукі, той мукі, з якой Марыля напячэ хлеба, той мукі, з якой у яго хату ізноў войдзе залатая радасьць жыцьця, ад якой усьміхнуцца дзяціныя вочы блакітныя, ад якой стане цепла, прыгульна і прыветна ў яго роднай хатцы, з якой ня страшны будуць ні холад, ні сьнегавыя завеі, ня страшна нішто, нішто ў сьвеце і самае галоўнае—уцячэ з пад вакон люты вораг—голад шэры.

Муку Васіль палучыў у горадзе. Там адчынен цяпер харчавальны пункт. І многа людзей, якія шлі з далекіх глухіх вёсак з думкамі аб сьмерці з думкамі аб загінуўшым рана жыцьці, цяпер бадзерыя і вясёлыя з аганькамі радасьці ў заняпаўшых раней вачах, разыходзіліська глухіх кутках з кайстрамі, з клумкамі. А ў клумках жыцьцё, у клумках сіла—якая радасьцю падганяла станіўшыяся ногі.

І ня толькі ў горадзе, у кожнай воласьці, адкуль ня выехаў зусім народ, паадчынены гэтыя харчавальныя пункты. У Васілевай воласьці пункт яшчэ не адчынен—вельмі мала засталось народу на месцы. Але ў горадзе сказалі, штоб прыходзіў Васіль дні праз два тры ўжо ня ў горад, а ў воласьць, бо і туды накіравалі фурманкі з мукой для галадаючых.

І рада сэрца, сьмяецца. Хіба гэта толькі адзін пуд, хіба гэты пуд апошні... Не... І яшчэ будзе пуд, і другі, і трэці, да самага таго часу, калі на саламянскім полі пажнуць новую пшаніцу, калі зьнімуць новы ураджай...

Яшчэ перад тым, ян палучыць муку, Васіль прамяняў новы кажух, прамяняў усю лепшую сваю адзёжыну на лебяду, на кавалак мяса і ўсё гэта нясе з сабой. Сам апрануўся ў такое рызьзе, у якім, пэўна, не пазнаў бы яго ніхто з блізкіх і знаёмых, калі-б сустрэў па дарозе.

Не адзін дзясятак,а цэлую сотню вёрст прашоў Васіль, да роднай хаты засталося ўсяго вёрст з дваццаць.

— Ну, к начы як-небудзь дабяруся. А дабрацца трэба, як мага хутчэй, бо ў хаце цяпер няведама што з Марыляй, з дзяцьмі.

І думка аб дзецях і радасьць, што ў бліжэйшыя дні над яго хатай не прашалясьціць ужо чорнае крыло сьмерці, бо ў кайстры мука, а ў ёй захована нявідомая, вялікая, жывая сіла, якая падтрымоўвае на сьвеце жыцьце.

Васіль сьпяшаўся.

* * *

У цеплых папоўскіх пакоях пахла ладанам, воскам, пахла маслам посным і яшчэ нечым, толькі не пахам царквы, а тлустым пахам з гарачай печы. Айцец Еўлампі голаду не баяўся. Да і дзе баяцца, калі айцец строга прытрымоўваўся вялікай апостальскай запаведзі: „Будзьце мудры, акі зьміі і краткі сэрцам, акі аўцы". Праўда, у кротасьці айца можна было сумлявацца, а калі казаць аб мудрасьці, дык айцец Еўлампі праўзашоў і зьмія, ня дарам у цяжкую гадзіну без страха застаўся на месцы. Зусекі былі поўны хлебам, вадзілась і жыўнасьць, у надзейным мейсцы вадзілісь і грошы—не жыцьцё, а рай зямны быў для Еўлампія.

У нізенькіх пакойчыках панаваў цёплы змрок, бо большасьць акеньніц былі пазачынены. Ціш і супакой панавалі ва ўсім даму, толькі на кухні наймітка шаравала голікам падлогу, брызгатала часам з талеркамі, з чыгунамі, віхарам завіхалась ля печы, калі з унутраных пакояў паказвалась матушка.

Айцец Еўлампі сядзеў на мягкім зэдліку у самым заднім пакойчыку. Густая чорная барада агарнула яго шырокі нізкалобы, з хітраю ўсьмешкаю твар. Кірпаваты, саплюшчаны нос бульбінай-скарасьпелкай уткнўся пад зросшыміся на пераносьсі брывямі, з пад якіх выглядалі аплыўшыя тлустам, невялічкія мышыныя вочы. Тоўстыя і чырвоныя, нібы кавалкі сьвежага мяса, губы штосьці шапталі. Поп занят быў важнай справай. На сьцяне ціха цікаў гадзіньнік з нязьменнай зязюляй, якая толькі што пракукавала чатыры гадзіны.

— Ну, пара скончыць працу...

Увайшла пападзьдзя, яшчэ вяртлявая сакавітая не па сваіх гадох жанчына, з пухлым трайным падбародышам, з тоўстымі, чырвонымі рукамі, на растапыраных пальцах якіх мігацелі, пераліваліcь рознакаляровыя каменьчыкі пярсьцёнкаў. Пападзьдзя трохі ўтамілась (лаялась з найміткай) і яе грудзі—бязьмерныя пухавікі, калыхаліcь, уздымаючысь ледзь ні да самага носу.

— І што за жыцьцё, за прыкрае з гэтай найміткай. Не жанчына, а чобат бязглузды. Колькі раз казала сёньня, каб палажыла ў смажаніну цыбулі, а ей нібы галава адсохла.

— Ну годзе табе з цыбуляй ваджацца, вось паглядзі лепш...

Паглядзела пападзьдзя на стол і пасалавелі яе шэрыя выцьветшыя вочы.

На белым абрусе паразложаны залатыя чашы, дарагая аправа з эвангелі, сярэбраны крыж, цэлыя рызы з багоў, залатыя і сярэбраныя трыкіры і дзікіры і паасобку ляжалі пярэстыя, пераліваўшыяся ўсімі вяселкавымі колерамі, кучы розных дарагіх каменьняў. Мігацела і мягка пералівалась рознастайнымі тонамі золата і срэбра, агоньчыкамі іскрылась каменьня. О, як прыгожа і як прывабна...

У пападзьдзі аж дыхаць заняла, напружылісь жылы на лбу , шчокі абліў густы румянец і высалапіўшы язык, яна зачараваннымі вачыма паглядала на стол.

Нябесным хараством іскрыўся беласьнежны абрус. Вось буйны, з гарошыну, рубін мігаціць чырвоным бляскам, брызкае чырвонымі іскрамі, нібы захавалась, акамянела ў ім жывая капля чалавечай крыві з залатым праменем сонца. Так сьвеціць капля крыві з падрэзанага неасьцярожна сярпом дзявочага пальца, калі гэту каплю пранізвае паўдзённае гарачае сонца. Чырвань крыві і золата сонца—вось адчаго і вабяць рубіны людзкія вочы, асабліва, калі гэтыя вочы спагналі смак жыцьця.

Каля рубіна зіхацеў цёмнаю чароўнаю зеляньню ізумруд, блядымі сьветла-зязёнымі пералі амі, нібы сьвежая мурава вясновая, сьвіцілісь празрыстыя хрызаліты, расьцьвітаў жоўтацьветам берыл, побач з васільком—шафірам вясёлкамі разьбягалісь зямчужныя пацеркі, агарнуўшы дарагую дарахраніцельніцу з дымчатага хрусталя з бірузовай крышкай, ад якой веяла подыхам бяздоннага нябеснага блакіту. І ў асяродку ляжалі ўсяго тры невялічкіх брыльлянты, ўсяго тры, але яны адразу настолькі прывабілі вочы попадзьдзі, што яна аж працягла рукі, каб дакрануцца да іх красы. Але поп узяў яе за рукі, адвёў.

— Глядзі, але рукамі не кратай.

А брыльлянты, невялічкія брыльлянты, сваей чыстай празрыстасьцю напамінаючыя застыгшыя чалавечыя сьлёзы, мільгацелі міліёнамі іскарак, з іх ляцелі то гарачыя сонечныя праменьні, то срэбныя чароўныя ніці халоднага месяца, калі ён запальвае вясёлкавым цьветам ледзяныя сьняжынкі на гурбах сьнега у марозную, калядную ноч.

Цяжка, цяжка ўздыхнула пападзьдзя, адвёўшы вочы ад каменьняў.

— Дзе ўзяў?—ціха запытала.

— Вось дурніца, ня ведае дзе, вядома, ў царкве. Вось, бачыш, рыза сьвятога Мікалая, брыльлянты з каруны божай прамацеры, а гэта...

— А нашто ты ўзяў, гэта ж вялікі, нязвычайны грэх...

— Годзе языком баўтаць, распусьціла трапло: грэх, грэх... балмоча нямаведама што сваім языком бабскім, вось, на, пачытай, калі глузды не адапрэлі, зразумееш—і поп, узлаваў шысь не на жарты, тыцнуў газэцінай у самы нос пападзьдзі.

— Ну, во, ўсердаваў і няведама за што, ты-ж скажы па добраму, мой каток даражэнькі, каб і я ведала, у чым справа і нашто злавацца.

— Ну, добра, добра... Бачыш, у чым справа. Чытай: „Декрет об из'ятии церковных ценностей в пользу голодающих" Ну, цяпер разумееш, у чым справа, цяпер пра грахі памянеш?.. Мо хочаш, каб я гэта багацьце, каб я гэта ўсё, што ляжыць вось тут прад табой на стале, каб я гэту царкоўную, божую маёмасьць і к слову кажучы (тут поп скоса пазірнуў навокал сябе) маёмасьць маю і тваю, залатая мая дурніца, каб я гэта ўсё так сабе, за панюх табакі, за „бывай здароў" аддаў гэтым агідлым, богам і людзьмі праклятым, богахульнікам, вераадступнікам бальша-віка-а-а-м.

Яны, бач. ха-ха-ха, задумалі адратаваць ад сьмерці гэту галодную шантрапу, галоту адвечную, якая забылася ўжо пра смак бізуна, атруілась подыхам бунтарскае волі і захацела, забыўшысь пра царкву, пра прастол божы і нас, служыцеляў і спаўніцеляў адвечнага нябеснага розуму й волі, захацела будаваць, хі-хі-хі, рай зямны...

Што-ж, будуйце, але гэты, гэты каменьчыкі (аж затрымцелі паповы рукі, здрыганула ўсё яго цела) не пападуць у вашы брудныя рукі, не, выбачайце (патрос кулаком у паветра), ня бачыць вам маіх дыамэнтаў,як сваёй патыліцы, а калі хочаце, дык вось вам—фіндос пад нос, ім пакарміце сваю галодную, ўшывую мразь...

Аж жудасна зрабілась. Трохі памаўчалі і ціха прамовіла пападзьдзя, абхапіўшы гарачымі рукамі шыю Еўлампія і прытуліўшысь да яго шчыльна-шчыльна ўсёй сваёй млоснай істотай:

— Дзякаваць богу, што надзяліў цябе такім розумам. О, мой любы, мой каханы, мой шэры каток (каток важыў пудоў

з дзесяць), пацалуй мяне, як цалаваў ты калісьці раней, бо люблю я цябе горача, горача.

І без пачуцьця, без палкасьці (дзе ўжо там) сьлюнявілісь брыдкія губы, нібы кісель на малацэ трапыхалісь пападзьдзіныя дрыгвяныя грудзі, і яе вочы—асклізкі жаб'і, закатываліcь у салодкім тамленьні пад самы лоб, дзе зьвісалі раскудлачаныя рыжыя космы.

Але раптам усхапілісь. Што гэта? Нейкі лёгкі стук у дзьвер, палахліва, спуджанай мыш'ю забегалі вочы, грудзі абоіх нахіліліcь над сталом і поп хутка, хутка накрыў стол, падняўшы з бакоў абрус. А сэрцы ў абоіх так і захадзілі: тах-тах-тах... А ў дзьвер нехта стучыць...

— Хто гэта?—палахліва запыталася пападзьдзя.

— Я...

— А-а-х... каб цябе паляруш разьбіў, чобат бязглузды, во, напалохала, гадыня.

— О-ох—уздыхнуў палягчона поп.

— Што табе трэба?

— Ды там жанчына прышла, нешта пытае бацюшку.

— Чаго-ж яна прышла?

— Хіба я ведаю.

— І ты яе ўпусьціла ўжо ў хату?

— Як ні пусьціць, калі чалавек просіцца зайсьці, бо кажа, па важных справах..

— Ну йдзі, перачніца бязглуздая і скажы, што я зараз выходжу.

— І хто мог прыйсьці, хіба за трэбай, ну, будзе прыбытак—падумаў айцец Еўлампі,—але якія цяпер трэбы, калі кругом ніводнага чалавека, уся вёска пустая, як клець у гэтай галоты вясной. Хіба Марыля Васілёва, яны ня выехалі...

— Правёўшы пяцярнёй па валасох і зірнуўшы ў люстэрка поп вышаў на кухню.

Нешта скамячанае, зморшчанае, страціўшае чалавечае аблічча, нуднае, як даждлівая восень, стаяла ў кухні і пры яго ўваходзе кінулась прад ім на калені, працягнула празрыста—сінія рукі шкілета к брудным яго чабатам.

— Я прышла да вас, дарагі бацюшка, бо толькі на вас, толькі на вас аднаго, майго дарагога, ўся надзея...

— Ну, кажы хутчэй, зачым прышла—запытаў пасьпешна поп,-мо" памёр хто з дзяцей, дык я зараз...

— Не, жывы, дзякаваць богу... жывы... але хутка памруць... дзе тут выжыць... і Васіля ня чуваць.. ведаю, што і яму ня лёгка, пашоў у далячынь, у сьвет, і некаму дапамагчы, на вас, дарагі, ўся надзея, вызвальце ад сьмяротнай пакуты... Хіба я не адпрацую з Васілём на вашым полі..

І ўспомнілась папу, што Васіль, як прыйшоў з салдат, ні разу ня быў у спавядзі і сустракаючысь з ім на вуліцы, вельмі скоса пазіраў на чорную расу і як даведаўся поп ад царкоўнага старасты, Васіль на сходах ня раз загаварваў аб папоўскай зямлі і сенажаці.

— Устань, я ня бог, што ты хочаш?—бязучасна, холадна прагаварыў поп.

— Што я хачу... я хачу... я хачу... дайце хоць жменю зерняў, дайце хоць скарыначку хлеба... адратаваць... выцягнуць з кіпцюроў сьмерці... бедных... галодных дзяцей...

— Нічым не магу дапамагчы, маё мілае чадо. Хіба-ж у мяне што ёсьць, бачыш, сам перабіваюсь з вады на квас, ня тыя цяпер часіны, як раней. І голад, да й людзі цяпер ня тыя, чым раней... сама ведаеш...

— Бацюшка... родны... я ўсё ведаю... і голад... і людзі... ня дайце загінуць дзецям... дайце... ну... хоць адну, хоць адзіную скарыначку...

— Не магу, галубка, хіба ты ня верыш мне, твайму духоўнаму айцу, што і ў мяне нічога, анічагуткі нямашака. Да й памятай, мае чадо духоўнае, (тут поп узьвёў вочы ў гору і скрыжыў над Марыляй рукі) „Не о хлебе едином жив будет человек, но о всяком слове духовном, исходящем из уст его". Крапісь маё чадо, памятай, што і бог доўгацерпялiў і многаміласьціў і не пакіне цябе бяз высшай нябеснай дапамогі. Ну, ідзі, галубка, ідзі, наглядай за сваімі дзяцьмі. Ну, йдзі, чаго-ж ты стаіш—ужо нецярпліва казаў поп.

Выпрасталась Марыля ва ўвесь рост, трапечуцца лохмы ўбогага адзеньня, у цёмных бяздонных вачах, якія чарней восеньняй ночы, заблішчэў зыркі, зыркі агонь, упілась гэтымі вачмі—агнямі ў блудныя папоўскія вочы, якія палахліва заміта сіліся ва ўсе бакі, хацела нешта сказаць... але зьнік агонь, пахілілась бясьсільна на бок галава, сударгава сьцятыя кулакі апусьціліся, як плеці і хістаючысь, пайшла Марыля да дзьверы.

Зачыніў за ёй Еўлампі, доўга зашчапляў дзьверы на кручок, які як на зло, не паддаваўся. Затаміўся, нябсга. Прынік

потым к вакеннаму шклу. Ціха, ціха, як начная здань, пасунулась Марыля са двара, нешта супынялась, стаяла з хвіліну, і зноў шла далей, трасучы галавой. Успомнілась як то міжволі папу запаведзі... блажэнства... „Блажени алчущие и жаждущие“, к ёй прыплёўся канец другой «яко те мзду возымут на небесах...„

І ўсьміхнууся, гэтак радасна ўсьміхнууся поп.

— Палучаць... ха-ха... на небясах... вось толькі доўга чакаць гэтай палучкі, раса вочы выесьць. Што-ж, палучайце, ня жаль мне нябеснай манны...

І цярэбячы бараду (адзнака добрага настрою) пасунуўся ён у пакоі, напяваючы пад нос „Сьвеце ціхі, сьвятыя славы тваея“...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

* * *

А Васіль сьпяшаецца да дому, блізка ўжо, недалёка, вёрст з'восем засталась, Вечарэе. Узьнімаецца ветрык, дзьме па чыстаму полю і струменяць па ім празрыстыя сьнегавыя дымкі, засьцілаюць даль радном туманным. Нясуцца пушынкі, коўзаюцца аб жорсткую, блішчастую сьнегавую кару і ляцяць, ляцяць у халодную даль, бяз прытулку, бяз радасьці, без болючага гора...

Ляцяць сьняжынкі, навяваюць длінныя новыя гурбы за кустамі, за дрэвамі, разносяць старыя гурбы, жорстка сыплюцца аб мёрзлае вецьце, шурхацяць па абледзянелым дрэвам. Ветрык мацнее. Раней сьнегавыя струмені толькі шурхацелі ў нагах, цяпер б'юцца сьняжынкі ў твар, за каўнер забіраюцца, балюча казычуць вушы, непакояць расьніцы.

— Ізноў будзе вечарам завея—думае Васіль і сьпяшаецца да дому.

* * *

Марыля сядзіць на куту, заплюшчыла вочы, не здрыгане, не паварушыцца. Вось пагладзела з па за стала. У ваччу—жуда зялёная. Губы—белыя ніткі, шавеляцца, нешта шапочуць.

— Бог... а я верыла.. што... ён... ёсьць... Не.. вунь дзеці мае.. адно няжывое... не сьцярпела.. не па ім пакута...

І цяжка, цяжка ўздыхнула. Так уздыхаюць, гледзячы сьмерці ў вочы, бачучы дно сваёй магілы. І раптам панясьліся карагодам успаміны, такія сьветлыя і прыгожыя, як майскае вутра, як цьвецень поля льнянога. Лятуць годы адзін за адным, дні дзяцінства, дні маладосьці праходзяць прад вачмі, праходзяць апавітыя ружовым туманам і золатам сонца, ускалыхнулі сэрца карціны каханьня, атуманілі розум срэбныя ночы,

вечары залатыя, кучаравыя, шчырыя клятвы, крыўды любоўныя, гарачыя пацалункі, першыя ласкі і нявыразныя матчыны ўцехі і ўсё жыцьцё, дзень за днем, істужкай пярэстай шаўковай мільганула ў вачох і зноў цішыня магілы.

Чу... нешта бразнула на дварэ, быццам кварткай. Прыліпла Марыля лобам к халоднаму шклу, насталажылась уся, сэрца ходарам усхадзілась, захвалявала, аж у віскі застучэла ўзгарачаная кроў, атуліла голаў нібы пачуцьцё неспадзяванай радасьці:

— А мо' Васіль дарагі?..

Пільна ўглядаецца за вакно, здаецца дыханьне зьлілось в шурхаценьнем завеі аб халоднае шкло. Нейкі чалавек зачыняе квортку, капушыцца каля яе, папраўляе кайстру за плячыма.

і зноў памеркла на сэрцы, ізноў магіла...

— Не... не Васіль... і адзежа ня тая, ня тая шапка, ды хіба ў Васіля была барада..

І агарнуў холад Марыліну душу, пераявяла яна вочы ад вакна на кут каля печы. Месячык мігціць на прыпячак, на качоргі, на чапяльніцы... Унізу блішчыць халодны, сталёвы язык сякеры... сякеры... ах, гэтай... сякеры...

Акругліліся, нібы ў вар'яцтве, вочы ў Марылі, як кошка, шалёна кінулась к парогу, схапіла сякеру, так сьціснула тапарышча, што хруснулі пальцы, вочы гарацъ, сэрца вот-вот выскачыць, разаб'е сваім напружаным тахтам хворыя, надырваныя грудзі, а голаў сьверліць, бязьлітасна сьверліць адзіная думка:

— Жыць... жы-ы-ы-ць...

Прытулілась, прыліпла да сьцяны Марыля, а ў целе напружанасьць нязвычайная, сілы ў руках непамерныя...

— Толькі хутчэй, божа, бо-о-ж-а-а, толькі хутчэй каб гэта скончылась...

І гатова закрычаць Марыля, завыць зьвярыным голасам, толькі-б хутчэй...

Рыпнула дзьвер у сенцах. Вот ужо шкрабеча, шархаціць незнаёмая рука па дзьвернай клямцы...

Гараць Марыліны вочы, полымем палыхае ў галаве, ня слухаюцца, дрыжаць калены... толькі-б хутчэй...

О, як доўга, як марудна адчыняецца дзьвер... вось прасунулась галава, яшчэ адзін крок і... што сілы ўзьляцела сякера, маланкай бліснула каля сьцяны і... г-гах, чаўкнуў абух, нешта хруснула, застагнала гэтак прыдушана, глуха, брыз-

нула ў Марыліны вочы і вусны цёплым, салёным і чалавечая постаць цяжка, плажам сунулась на падлогу.

А сякера рабіла сваё дзела. . Усе рукі абліло нечым цёплым, і пах гэтага цёплага яшчэ болей кружыў галаву, п'яніў яе нязвычайным салодкім буяным хмелем, шырока ўдыхалі п'янае паветра ноздры, чуць-чуць былі адкрыты вочы і толькі, нібы кляшчоткамі, былі сьцяты зубы.

Вот хрустнула ў апошні раз і з пад сякеры пакацілась галава, астаўляючы на палавіцах чорны ў месячным бляску сьлед, ад якога падымаўся ў гору, плыў пад самую столь беласьнежны пар...

Галава перавярнулась раз, два... яшчэ раз і супынілась тварам угору, пад срэбныя праменьні месячыка Перастала трапятаць тулава, толькі пальцы на руках скручваліся, падзергваліся сударгай, шкраблі брудную падлогу, але ўсё слабей і слабей... Вось і ўсё сьціхла... скончылась усё...

Бразнулась Марыля аб падлогу ў бясьсільлі, ізноў слабасьць нахлынула. . але радасная думка ўсплывае, карагодзіць у галаве.

— Ну, дзеці, будзем жыць, усё ёсьць і хлеб, іш якая кайстра бальшая, і... мяса... многа мяса..., колькі дзён можна пражыць...

Мільганула яшчэ думка:

— А кроў, забойства... найвялікшы грэх, што я нарабіла... —але дзесьці ў шызым тумане схавалась гэтая думка.

У месячным бляску галава бялее... Страшна Марылі й няс страшна... і хочацца паглядзець у твар.

— Дай, пагляджу...

Пасунулась бліжэй. Вось надавіла пасоўваясь на палавіцу, на якой ляжыць галава і яна, як жывая павярнула свой зьбялеўшы твар да Марылі. . Нешта войстрай іглой пранізала Марыліна сэрца, ёкнула нешта ў ім. .

Што гэта?...

Вочы галавы незнаёмай глядзяць, ня міргнуць у зьбялеўшы адразу Марылін твар ..

Але чые гэта вочы, чые гэта дарагія расьніцы... Сьцялась у камок Марыля... ціха, ціха з хвіліну і раптам, уздрыгануўшы усёй сваёй істотай, рэзанула начную цішыню нечалавечым прарэзьлівым крыкам:

— Васілё-о-ок, родны, дарагі, прасьці... зьлітуйся...

Але ня ўсё можна вытрымаць чалавечаму розуму... Зарагатала Марыля шалёным, зьвярыным рогатам, і пакацілася рэхам па хаце, па вуліцы нечалавечае: ха-ха-ха-ха...

На хвіліну сьцішылась, схапіла галаву нярухомую, прыхіліла да грудзей, падняла і ўглядаючысь ў мёртвыя вочы ўпілась вуснэмі ў аблітыя сукравіцай, ашчэрыўшыяся мерцьвякова вусны, палка цалавала цьмяныя шчокі, зьліпшыяся ў крыві валасы, ў адкрытыя вочы... Цалавала і шаптала ціха:

— Ты зноў прышоў да мяне, мой Васілёк каханы... Прытулісь да мяне мацней, абаймі... Як добра... Як хораша мне з табой ., мой любы .. мой верны... Мы пойдзем з табой, хутка пойдзем у поле жаць залатую пшаніцу... Ну пацалуй-жа мяне, гарачэй пацалуй, мой дарагі. Ха-ха-ха-ха... ты ня хочаш маіх пацалункаў... тваё вусны халодны, як лёд, дык ідзі-ж ад мяне, ідзі .. адкасьніcь... — і звонка бразнуўшысь аб падлогу пакацілась галава ў кут пад бажніцы...

То была галава Васіля ..

А за вакном рагатала завея, дзынкала ў шыбы халодныя жменямі жорсткага сьнегу...

ПАВОЛЖЖА. 1922 год.

# ВЕРШЫ М. ВЕРАСА.



## Чырвоныя макі.

**(З мінулага).**

Загудзі, засьпявай мая ліра
Пра цяжкія часіны змаганьня,
Пра крывавы падзеі у вірах,
Пра славутыя справы паўстаньня.
Абяжыць хай па сёлах і вёсках
Песьні звон, як былога ўспаміны,
Хай аб маках раскажа дзівосных,
Ля старой што квітнеюць хваіны.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Эх! то ня ночка сузор'ямі бліскала
Ў хвалях халодных балотнай ракі,
То і ня вогнішча іскрамі пырскала
Ў цемру начную. Не!.. Не!.. Мужыкі
Гурмай сабраўшыся ў хаце Пілiпавай
Думалі думку пры сьвеце карча,

Думка старая, што лапаць твой ліпавы,
Але, як моладзь, крывёй гарача.
Трэба зямлю падзяліць усю панскую,
Кроў'ю што зьлілі краіны сыны
У байцы—змаганьні з навалай паганскаю,
Як разьбівалі жыцьцё—кайданы.
А каб бяднейшым гасподу даць роўную
Тут парашылі па думцы Кузьмы
З панскаю разам дзяліць і царкоўную:
„Годзе! трутнём наслужыліся мы."
Павадкай грэблю сарвала струхлелую,
Змыла руду вадаспадам кіпучым,
Скінула вёска тугу абамшэлую
І ахінулась убраньнем бліскучым.
Вольныя словы—зарніцы агнёвыя,
Віраць віхурай старэнькую хату;
Рольлі—аблічча буяна—рунёвыя,
Межыць палі, сенажаці араты.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ой! ня крумкач крыважэрны ўзнасіўся
Па—над рачулкай, дзе плавалі гусі,—
Здраднік ня спаў і да хатак туліўся,
Слухаў гамонку сыноў Беларусі.
Ценьню маўклівай бадзялась уночы
Вёскаю здань у падрасьніку чорным,
У вокны загляне і нема рагочыць:
—„Дам вам жыцьцё на палетку, на ворным."

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

То ня хмары,
Ой не градавыя
Усе ў полі жыцейка пазьбілі,
Не маланкі,
Ой не веснавыя
Бары-пушчы полымем спалілі.
Груганы то,
Ой паналяцелі
З Віслы, з белай,—варажай краіны,
Сёлы, вёскі
Попелам пацьмелі,
Замест хатак засталісь.
Руіны.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пшэпустка,... і ціша
Зноў сьмяротная вокал...
Сіняя ноч. Сіня — шэрыя
[хаты.
Жмурыцца сонна вокам
Месяц гарбаты,
А ў хаце,
Дзе сьвет,
Ідзе банкет,
Там—
Поп багамольны
Прадае паднявольных
Сваіх парахвіян...
—„Найясьнейшы пан!
Уперад
Гэты Кузьма
Сялян навучаў,
Зямлёй надзяляў,
І... панскай.
І... нашай
Хрыстыянскай,
А цяпер,
Няхай мяне бог пакарае,
Народ зьбірае...—
У лес"
З вачыма на лобе,
Сьціскаючы крыж,
Са скуры
Поп лез.

. . . . . . . . . . . .

Раніцай
Сонца пажарам
Усход запаліла,
Ля хваіны ў полі—
Магіла...
Жоўты пясок,
Верасок
Ірдзеліся расою...
З ветрам
Шапталась гальлё
У трывозе,—
Ад вёскі
Пыл па дарозе
Усё бліжай

І бліжай...
Прывялі, ..
Прывязалі к хвэіне, і ..
Па даліне
Сухі трэск...
Ціша сьмяротная
Над полем павісла,—
Згуляла баль Вісла...
Пырснулі капкі крыві,
Зацьвілі
Між збожжа
Чырвоныя макі,
А з царквы
Гучэла ўзьдзячнае:
„Пакі.. Пакі..“
. . . . . . . . . . . . . . . .
Затуманілісь дымкаю далі,
Зашугалі жыцьцём гушчары,
То паўстанцаў узьняліся хвалі,
З хат павыйшлі малы і стары.
Загуляла віхура на краі...
Вёсцы бор падае галасы:
Груганові пазьнішчаны зграі..
Перамогай сьпявалі лясы.
. . . . . . . . . . . . . . . .
Сярод поля,
На пагорку,
Пад хваінаю старой,
Не садочак,
Курганочак
Нечай высаджан рукой.
З кветак маку,
Усё чырвоных,
Аздаблялі што курган,
Бы саткаў хто
Дзіўных фарбаў там дыван.
І хваіну
Помніць кожны,
Помняць, хто ляжыць пад ёй,—
Аб паўстанцу
Казкі—песьні
У сьвет бягуць, бурляць ракой



## Шэпты бору.

Гасьне доўгі летні дзень
Апранаючы у цень
І лясы, і хаты, нівы.
Па-над Вольсаю-ракой
З смугай-сіняй пеляной
Строіць ветрык палахлівы
Жарты, гульні... сенажаць
Змоўкла, сьціхла і дрыжаць
Толькі гукі плачу „кані“...
Сьціхла ўсё да самай рані.

* * *

Кожну ноч, як засьне
Ўсё навокал жыцьцё,
У хваёвым бару ля лагчыны
Пачынае, бы ў сьне,
Шапацеці гальлё
Шэптам ціхім, як смутак дзяўчыны.

Зелян-бор малады
Ўсё гудзіць, бы званы,
Гудам-песьняй сваёй засмучо-
Ў ім ахвяр маладых [най,
Чуцен стогн, крык старых,
Енкі маці з дзіцём разлучонай.
Ціхагуды той звон
Даў зямельцы загон,
Дзе калісьці сяляны аралі,
Бацька з сынам дзе ў плуг
Запрагаліся ўдвух,
Бізунамі слабых падганялі.
Кожны крок тэй зямлі
Потам кроўю зьлілі
На Патоцкага-пана загонах,
Ой, стагнала зямля
З селянінам сама
На старых пана-ката прыгонах.
. . . . . . . . . . . . . . . .
З таго часу-жуды
Працякло шмат вады,
Засталіся адны успаміны,
А страшэнныя сны
Раскідалі сыны,
Толькі курацца пылам руіны.

* *
*

Між шумлівых лясоў,
Між балот і палёў,
Дзе раней панавала няволя,
Дзе мужык бедаваў,
Век на пана араў
І дзе гінулі жыцьце і доля, —
Там цяпер новы дзень
Свой яскравіць прамень,
Чутны песьні супольнае працы;
Там народ грамадой,
Быццам пчолак тых рай,
З новай песьняй будуе палацы.

## Песьня-звон.

Ой, ты, песьня-звон,
Песьнь вясковая,
Настрой дам табе

На лад новы я:
Абхіну табой
Сінь палёў і даль,
Бы дзявочы стан
Срэбна—бел кужаль;
Параскідаю
Усю жуду-нуду,
Сэрца шчэміць што
'шчэ агідаю;
Васільковым я
Абаў'ю вянком
Вёску зрэбную
З маладым гайком

* * *

Ой, ты, песьня—звон,
Песьня родная.
Пад твой сьпеў ідзе
Праца згодная,
Ці касец з расой
Ой, кладзе пакос—
Ты плывеш, гучыш
Стальлю звонкіх кос;
Ці жняя сярпом
Бліскане ў палёх,—
Не баліць душа,
Сум даўно палёг;
Па-над рэчкаю
Ляжа ночы цень,—
Салаў'ём зьвініш,
Сустракаеш дзень.

* * *

Ружовай істужкай ірдзеўся усход,
Прачнуліся птушкі шумлівыя
І летняга дню сонцавейны прыход
Віталі музыкай гульліваю.
У лозах кудзёрыстых дымка-туман
Сплятаўся шаўковымі косамі;
У полі, у жытнім старэча—курган
Зазьзяў дыямэнтамі-росамі.
Каса зазьвінела ў мурожных лугох

Званамі прарэзна-сталёвымі
І водгукі беглі па ўзьмежных кустох,
За далямі ніклі агнёвымі.

* *
*

Пасьвіць месяк ў сінім полі
Зорак срэбных чараду,
У кустох туман паволі
Чэша сіву бараду.
Па-над лугам, дзе у раньні
Ад птушыных сьпеваў млеў
Ветрык-пестун,—пры зьмярканьні
Пахам кветак захмялеў.
Нахілілася вярбіна
І глядзіцца ў люстра вод.
Бы ў задуме тчэ дзяўчына
Мараў сьветлых карагод.
Да агнёвае дзяньніцы
Усё спавіў начны пакой,
Толькі бліскалі зарніцы
За далёкаю ракой.

* *
*

Атулілась поле наміткай
Белатканай,—
Пульхны сьнег...
Раніцай,
Ой ды ля камінку
Чуцен срэбны сьмех.

. . . . . . . . . . . . .

Сьмех дзяўчыны—краскі
З калаўрота сьпевам
Досьвіткам зьвініць;
Ад камінку бляскі
Ўюць—прадуць з напевам
Новай песьні ніць.
Песьні сьмех вясёлы
Ой ды з аксаміту,
Веснавейны сьмех
Затучэў на сёлах,



Шэраньню спавітых,
Атуліў што сьнег.
Загудзелі хаты,
Песьняй песьцяць вёску,
Загулі вульлём;
У лясох кашлатых
Водгульлямі вёсны
Шапаціць гальлё.
Чуў я тыя песьні,
Песьні роднай вёскі,
Звонкія, як сталь;
Чуў іх на прадвесьні
У музыцы усплёскаў
Каламутных хваль.

## Восень.

Болей ня паліць пажары
Летняю раніцай ўсход,—
Зьвісьлі, насунуліся хмары
Водзяць нуды карагод.

Шчэцьцю шчаціняцца гоні:
Збожжа пазжата вакол;
Спутаны пасьвяцца коні,—
Чорны мурашыцца дол.
Справілісь з працай на полі,
Гоманам сьцішыўся лог,
Сьвежа-узьнятыя рольлі
Руні аздобіў мурог.
Неба сьлязіцца імжою,
Зольлю вісіць між галін;
Пойдзеш зрудзелай мяжою
К бору крыжастых ялін,—
Птушкі ня будзяць вясёлым
Сьпевам дзяроў гушчары;
З посьвістам вецер шалёны
Шышкі зьбівае ў бары;
Гудам гудуць верхавіны
Стогнуць жудой галасы,
Глянеш,—з іглістай дзярніны
Посьцілку ткуць верасы.

## ВЕРШ ХВ. БУЖАНА.

### Я пясьняр малады...

Я пясьняр малады, я сяла веснаход,
Дрывасек і пастух, і араты,
Мае думкі вясна піша ўсе на прыход,
Лес і гай — мая цёплая хата.

Выйду ў лес — зашуміць, зарагоча ліства,
Сонца кропіць праменьнем галіны,
На балоце жартуюць чарот і трава
І купаюцца цені ў далінах.

Выйду ў поле з канём — там шумяць каласы
І жартуюць на межах з цьвятамі,
А над вёскай за полем гудуць галасы,
Песьняй звонкай вясноваю таюць.

Я пясьняр малады, я вясковы хлапец,
Думкі ў песьні свае выкладаю,
Мае словы — стальны, згартаваны клявец,
Голас — шум веснавейнага гаю.



# ВЕРШЫ Я. ХМЕЛЯ.

## Мая думка.

Рвецца думка удалая
Ў лес, у поле, ў сенажаць,
Бо яна-ж свабоду мае,
Крыльля мае, каб лятаць.

І ляціць да шчаснай долі,
К сонцу новага жыцьця.
І пяе аб сьветлай волі,
Што ўзьняла ад нябыцьця.

Рвецца, сьвішча, як віхура,
Аж закружыць галава,
Хмар нагоніць, то расхмурыць,
Хмары згоніць ўраз сама.

Рвецца к хвалям дзіўных рэчак,
Рвецца к гуку ручайкоў,
Рвецца ў хаты на запечак
Маіх родных мужыкоў.

Дык ляці-ж, ляці ты, думка,
Пакуль звоніць ў сэрцы кроў,
Пацяшай ты молодзь, думка,
Пацяшай і старыкаў.

Дык-жа рвіся, рвіся далей,
Шлях пракладывай сабе,
Рвіся зычнай, бурнай хваляй
І ня бі паклон журбе.

Барацьбу вядзі з бядою,
Не схіляйся ані-ні
І, парваўшы з злыбядою
Ты зьвіні, зьвіні, зьвіні!





## Веснавое.

Зірну на хвалі залатыя,
На шэпт разгулістай вады;
О, веснавеі маладыя!
Маёвых песень павады.

Зірну на пушчу, поле, вёску,
Загоны родныя свае
І чую, чую адгалоскі,—
Жыцьцё цьвіце, жыцьцё пяе.

Я кіну погляд бодры, сьмелы
На кветкі пышныя галін
І бачу вобраз пухла—белы
Кашлатых хмельных верхавін

А далей там, там далей вышай,
За пухам кветак веснавых,
Чаромха белай крышай дыша,
Маячыць зданьнем вартавым.

Я йду туды, дзе пахне смольлю,
Дзе лес у дзіўны летні час
Шаптаў нявыплаканай больлю
Людзём свой шчыры сумны сказ.

А кветкі, кветкі па дарозе
З шаўковай постацьцю травы,
Цалуюць ногі мне пяшчотна...
О, пекны выгляд веснавы!

Васілёк.

# ГОЙ.

(Апавяданьне)

плакала Рыва...

Плакала ціха, няпрыметна, тымі прыдушанымі сьлязьмі, якія цяжка стрымаць, цяжка высушыць, бо ідуць яны ад самай глыбіні сэрца..

Плакала Рыва..

Яна палюбіла гоя.

За вакном было цёмна і сумна. Васеньні дождж, нібы праз рэшата, сеяўся па гразнай вуліцы. Глуха стагнаў вецер і мокрым гальлём каліны стукаў у вокны, жудасна зьвінелі шыбы і здавалась Рыве, што вецер дражніць яе:

— Гой... гой.. гой...

Стары Мотэль, бацька Рывы, скончыўшы дзённую працу і палажыўшы апошні чобат пад свой шавецкі столік, маліўся богу. То ціха, ціха, ледзь чутна прасіў ён свайго старога, заімшэўшага бога дапамагчы яму ў нудным жыцьці, дапамагчы зарабляць кавалак хлеба... Часам голас яго ўсіляўся, гучнеў, нібы Мотэль злаваўся на бога, злаваўся за тое, што дарагі падэшвы, дарага гвазьдзё, дратва дарага... Прыслухалась Рыва да бацькавай малітвы, і ей здавалась, што бацька ня моліцца, а толькі гаворыць:

— Гой... гой... гой...

Старая маці варочалась на ложку, разьмінала старыя косьці, кашляла, вохала, нібы скардзілась на жыцьцё. І ў кожным стогне маці Рыве здавалась адно і тое страшэннае слова:

Гой... гой... гой...

Жалобна гудзеў вецер у коміне, ціха плакалі шыбы, абліваючысь сьлязьмі—дажджынкамі васеньнімі, то ціха, то гучна сыпалісь словы бацькавай малітвы. І ўсё гэта, перамешваючысь з вохамі маці, цяжкім жудасным каменем лажылась на сэрца Рывы, сэрца, палюбіўшае гоя.

Хто-ж плача, калі палюбіць? Хто аблівае сьлязьмі сэрца, у якім узьняліся кіпучыя агні, вырасьлі вялікія крыльля?

А плакаць трэба...

Стары бацька сказаў:

Рыва... ты была маёй дачкой, але цяпер... у мяне дачкі няма... Я стары сумленны яўрэй.. У мяне шмат мазалёў, але гэтыя мазалі ў суботу не бачылі шыла, не датыкаліся да грошай... У сваім сэрцы я насіў бога і ён шанаваў маю хату. А цяпер... цяпер, калі ты спазналась з паганым, у маёй душы стала пуста, а парог маёй хаты бог пакіне, бо ты, пераступіўшы гэты парог, спаганіла яго сваімі сьлядамі... Дык ведай жа, што ты мне не дачка...

І дрыжала сівая барада, калі гэтыя балючыя словы жорнавам цяжкім пракатваліся па грудзёх Рывы. Зірнула Рыва на бацьку і чуць, чуць прагаварыла, давячысь славамі:

— Тата...

— Не заві мяне болей татай...

— Дарагі тата.. Ну, я палюбіла яго, які жа тут грэх. Што я нядобрага зрабіла, што вы ад мяне адракаецесь?..

— І ты яшчэ пытаеш мяне... Пабюліла гоя, палюбіла рускага і яшча кажа, які тут грэх. Да цябе каменьнем пабілі б, калі-б ты жыла ў мой час... Што скажа цяпер рэбе Нісан, што скажа ўсё мястэчка ад апошняга краўца да рэбе Ісака, якімі вачмі пагляджу я на іх у сінагозе... А ты пытаеш, які грэх.. Я не сказаў-бы ні слова табе, калі-б ты палюбіла яўрэя. Твая маці даўно чакала часу, калі давялось бы цябе выдаць замуж. І колькі прыгожых багатых яўрэяў на цябе пазірала і ўжо пачыналі гутарыць аб гэтым са мной. А цяпер.. гора маё, вялікае гора..

— Тата, даражэнькі, ну чым жа ён хужэй за яўрэяў. Ён жа такі добры, так шчыра, так горача мяне любіць і я буду з ім шчасьліва...

— Годзе... не пагань сваімі словамі мой пакой, бо мне і так цяжка дыхаць...

— Даражэнькі тата, я ведаю, ты мяне любіш, зачым жа ты хочаш адняць ад мяне маё шчасьце. Ты-ж добра ведаеш, што ўсе твае жаніхі, багатыя яўрэі, не падабаюцца мне, што шмат з іх пазіраюць і думаюць не аба мне, а аб тых грашох, якія ты думаеш даць у пасаг.

— Годзе... Не гавары хлусьні.. Не гавары насупроць майго бога, бо ты павінна ведаць што самы апошні яўрэй куды лепш таго, аб кім ты думаеш, і лепш таму, што яго нарадзіў яўрэй...

— Тата, тата, пры чым тут бог?

— Маўчы і супакой свой паганы язык...

Маўчыць Рыва... Ні слова ад яе цяпер не дазавешся. Толькі ня змоўклі яе думкі, лётаюць яны спалоханай ластаўкай, летаюць легка і сьмела над той вялікай сьцяной, якую пабудавала старое жыцьце паміж людзьмі.

* * *

А пачалось усё летам.

Ціха драмала Палесьсе пад цеплым дыханьнем сонца. Мястэчка заблыталась сярод неабдымных лясоў і балот, у якіх загрузьлі лянівыя дні і нічога шумнага, нічога выдатнага не забягала на местачковыя вуліцы, па якіх галузвалі толькі жэўжыкі Моўшы, Янкі, Іцкі, Янкі, якія шчэ не адрозьнівалі сваіх бегоў ад чужых, бо шчэ бацькі спамыляліся часам і абзывалі Іцку Сорай а Янку Гануляй—бо бегалі яшчэ хлопцы бяз порткаў

І дзетвара галузвала ўмясьцёх, завадзіла розныя гульні і ў ката, і ў коршыка, ў палачку-шукалачку і было так хораша, так весела, што Янка ці Іцка раптам асушвалі сьлезы пасьля якога-небудзь няўдалага «паходу» у чужы сад, ці гарод, калі прыходзілась занадта блізка знаеміцца з лазіной, ці з бярозавым дубцом.

А вечарам заціхала зусім вуліца і ўсё мястэчка з бакоў імжылась сівым туманам з зялёных балот. Туман насоўваўся белай шапкай над саламянымі дахамі, распаўзаўся па вуліцах і салодка спала мястэчка пад гэтым кажухом

І вось раз, раніцой, калі ўсьміхнулась сонца з за лесу і дзед Панкрат вышаў з хаты запрагаць сівага каб ехаць у поле, а Мотэль садзіўся за чобат—уздрыганула нешта паветра, нібы хто кашлянуў чыгунным горлам дзесьці далёка, далёка і глухое рэха грамніцай пракацілась па лясох і палёх, дзьвінкнула ў шыбы і ўстрывожыла людзкія сэрцы. Толькі Панкрат і Мотэль падумалі, што гэта знача, як нехта невядомы і патаемны ізноў кашлянуў. І так некальні раз. Ёкнулі сэрцы Мотэля і Панкрата. Палахліва мільганула думка: «Вайна...» Успалохалась і мястэчка, нібы той муравейнік, жыўшы сабе ціха і мірна пад старай разгалістай хвояй. І вось прышоў нехта чужы, карпануў ненавісна нагой муравейнік стары і палахліва забегалі, замітусілісь мурашы, бегаюць, топчуцца, папраўляюць свае руіны. Так і мястэчка. Ня відна было яго жыцьця, а цяпер, глядзі, кожны вечар на вуглу вуліц, каля заімшэлых крам, сабіраецца жыхарства, вядзе гутаркі, чуюцца вохі і ўздохі.

— Кажуць, палякі блізка, трэба хавацьжывёлу ў лясох, бо забяруць, не пашкадуюць, не паглядзяць на твае мазалі і сьлёзы.

стары Мотэль казаў жонцы:

— Трэба пахаваць падсьвечнікі, самавар, бо, як я чуў, дачыста абіраюць палякі, ня будзе чаго запаліць і ў суботу.

А гукі чыгунныя ўсе мацней і мацней патрасаюць паветра. Вечарам у мястэчка прышоў атрад чырвонаармейцаў. Дзетвара, як вераб'і тыя, паразьлёталісь спачатку па хатах, але праз якую небудзь хвіліну са ўсіх бакоў акружылі салдат, знаемілісь з імі, заглядалі ў вочы, распытваліся пра стрэльбы і ўжо Язэпка казаў па сакрэту Янку на вуха, што ў яго ёсьць „нештачка" і паказваў у кулаку блішчастую кулю і скакаў ад гэтай вялікай надзвычайнай дзяцінай радасьці, І ў Янкі навярачваліся сьлёзы. «Чаму не ў мяне гэта прыгожае, ι эта блішчастае, блішчастае..,"

Чырвонаармейцы разьмясьціліся па хатах і ў Мотэля на кватэры застаўся малады камандыр. Хутка на стол зьявіўся самавар, зашыпела на трыножку скаўрада—частавалі зьявіўшагася госьця. Разьлівала гарбату Рыва, паглядала на таварыша Міхася (так звалі маладога камандыра), саромліва апускала вочы, калі Міхась няўмысьля ўглядаўся ў яе чорныя брові

* *
*

І пацяклі дні за днямі. Прыціхлі палохаўшыя мястэчка гукі, вуліцы зноў прынялі свой звычайны выгляд і толькі шэрагі салдат, часта праходзіўшых па ёй і гучнае „аць... два..." сьведчыла аб тым, што дзесьці недалёка блукаюць варожыя сілы пасягаюць на мірнае жыцьцё.

І зноў Мотэль супакойна сядзеў за чобатам. калупаў шылам, цягаў, як і раней дратву і седзячы за працай вырашаў мудрыя філёзофскія пытаньні аб сувязі паміж дратвай і богам, аб гвазьдзёх і памершым рабіне і г. д. Праўда, і новая думка неяк мімаволі ўсё часьцей і часьцей мітусілася ў галаве, думка аб Рыве.. Чаго гэта яна так таемна іншы час пазірае на Міхася.. на рускага.. Старыя вочы не правядзеш, яны добра бачаць на сьвеце ўсё, яны заўважваюць часам тое, што маладому веку ніколі не ўбачыць. Вось і цяпер, за сталом сядзіць Міхась, перад ім якаясь кніжка, на канапцы сядзіць Рыва, аб чымсьці гавораць.

— Аб чым гаварыць яўрэйцы і рускаму?—разважае сам з сабой Мотэль,—здаецца. няма аб чым а во на табе—гутараць, аб чым—нячутна, бо малаток спрытна ходзіць у старых руках, стукае па падэшве, уганяе адзін за другім драўляныя цьвікі і заглушае ўсе іншыя гукі. А Міхась аб чымсьці сьмяецца з Рывай. Толькі і чутна: „ха-ха-ха"...

Пазірнуў у іх бок Мотэль, пакасіў сівай брывёй, прамарматаў нешта пад нос і адлажыўшы чобат на зэдлік, ціха пазваў:

— Рыва!

— Чаго, тата?

— Хадзі сюды на хвілінку, ты мне трэба...

Рыва да бацькі йдзе, уважліва слухае.

— Як табе ня сорам, Рыва, сядзець падоўгу з гэтым... ну... з шэйгіцам гэтым, да й яшчэ сьмешкамі займаешся, ну, што скажуць людзі, як убачуць..

— Татачка...—толькі і прагаварыла Рыва і зачырванеўшысь макам агнёвым, адышла назад, села на старым месцы, але куды дзявалась яе ранейшая жвавасьць, куды дзяваўся яе срэбны сьмех, які толькі, толькі званочкамі лугавымі зьвінеў, пераліваўся ў цесным пакоіку і ўсё, здаецца, зьвінела тады і пералівалась нейкімі радаснымі хвалямі, якія так ласкава, так пяшчотна казыталі сэрца слухаўшага Рыву Міхася.

Рыва нэрвова перабірала чырвоныя кутасы свайго пояса, не да рэчы, няскладна адказвала на словы Міхася, ружовы твар апавіў смутак.

— Што з вамі Рыва?

— Нічога...

— Ну скажэце, Рывачка, чаго вы так адразу перамяніліся, вы толькі абяцалі расказаць мне нешта сьмешнае, сьмешнае, а цяпер і маўчыцё. Хіба ў сям'і вашай здарылась што-небудзь мо захварэў хто?

— Не, нічога, гэта я.. так сабе...—і раптам, закрыўшы вочы рукамі, усхапілась Рыва і хутка, хутка пабегла ў другі пакоік. Упаўшы на падушку тварам ніц Рыва ціха, ціха плакала і сударгава ўздрыгвала ўсё яе цела.

— І чаго прыстае тата, што яму трэба? І чаму „шэйгіц“? Міхась чалавек, ну няхай сабе рускі, што-ж з таго, хіба з ім нельга пасядзець, які-жа сорам гаварыць з ім і што тут кепскага, ён жа нічога дрэннага мне не сказаў. Калі б ведаў толькі татка, як добра абыходзіцца са мною Міхась, які ён добры чалавек, здаецца і палюбіць такога чалавека ня грэх. А хіба-ж ён мне і не спадабаецца?

* *
*

А Міхась незразумела паглядзеў усьлед Рыве і ў першы раз за весь час свайго жыцьця на новай кватэры ён неяк няпрыветна і чуць ні злосна зірнуў на старага Мотэля.

Міхась адчуваў за апошнія тыдні нейкую, ну, калі не варожасьць, дык непрыхільнасьць да сябе з боку бацькоў Рывы. І асабліва гэта непрыхільнасьць яскрава стала вызначацца за

апошнія вечары, калі Міхась падоўгу сядзеў з Рывай, вёў з ёю бясконца розныя гутаркі Аб чым толькі ні гаварылі. Міхась абкружыў са сваёй ротай чуць ні п. ўсьвета, пабачыў народу, пападаўся, як кажуць, не адзін раз у пераплёт, азнаёміўся з жыцьцём шматлікіх мясцовасьцяў неахопнай Расеі, шмат пабачыў, шмат перажыў і расказваць аб чым—хапала.

А Рыва расказвала а сваім мястэчку, аб тых навінах і чутках, які шлі з сінагогі, бышай адначасна і домам божжым і местачковай біржай.

Расказвала, як прыходзіў у сваты на яе стары мэламэд рэбэ Нісан і як бацькі, маючы на ўвазе адмовіць, паважанаму рэбэ, клапаціліся аб тым, каб не сапсаваць з ім адносін. І многа, многа гаварылі паважанаму рэбэ, што дачка іхная яшчэ занадта молада, што няхай яшчэ Рыва пабачыць вольнага жыцьця, што замужжа яе ад яго не ўцячэ, усё будзе ў свой час і як матка, зачыніўшы за ім дзьверы і пацалаваўшы Рыву, гэтак весела, весела прагаварыла:

— А маку ён ня хоча?!

Расказвала Рыва аб тым, як стары Арон, які гандляваў па вёсках дзёгцем, атрымаў багатае насьледзтва ад памёршага ў Амэрыцы брата і атрымаўшы чуткі аб гэтым звар'яцеў Арон. Сыны ў Амэрыку паехалі, а ён застаўся ў мястэчку, брындае ў рызьзі па местачковых вулках, ідзе пасярод вуліцы і пяе-зазывае:

— Па дзегаць, па дзегаць..

— Пахучы, цягучы...

Расказвала пра краўца Лёву, які сядзіць над іголкай ад усходу да заходу сонца, а жонка яго—гультай адвечны палец а палец ня стукне, выкручвае носам перад люстэркам да круглы дзень расьпявае:

— Гандальеее-р малады-ы..

Расказвала аб бедным Абраме, які вырабляе цэглу на продаж, сам за глеем езьдзіць, сам месіць і які есьць толькі бульбу, да хлеб з цыбуляй і толькі ў суботу дазваляе жонцы купіць селядца на сьвятошны абед. Усе с в а е невялікія грошы аддае на сына, які ў горадзе вучыцца. І рад жыцьцю Абрам не сумуе і сустрэўшы суседа заўсёды кажыць:

— А сын мой ужо ў чацьвертай клясе...

Гаварыла і аб рабіне Маісее, як прыходзіў ён перад паскай благаслаўляць іх жаночую працу па выпечцы мацы і як гаварыў з імі рабін, апусьціўшы вочы долу, бо грэх рабіну на дзяўчат, да на маладых жанчын глядзець. А потым рабін жаніўся, узяў сабе дачку памёршага рабіна, старую няпрыгожую

дзяўчыну. І на шлюб усе грошы сабіралі і бацька Рывы аддаў тады свой заробак за цэлую пару чабатоў новых.

Вось за гэтыя гутаркі і расказы коса пазіраў на Міхася і Рыву стары Мотэль. Не спадабаліся яму гэтыя гутаркі, бо бачыў, адчуваў сваім чуйным сэрцам, што Міхася і Рыву з кожным вечарам зьвязвае ўсё болей і болей якаясь таемная, нявідомая ніць.

Мо любоў? Не... гэтай думкі баяўся стары, баяўся, як самага надзвычайнага, самага цяжкага гора Проста, ну, сымпатызуюць адзін другому, маладыя, хіба-ж ім і ні пагаварыць, хіба-ж ім і ні пасьмяяцца. Толькі... зачым жа ўжо занадта, чаму Рыва ня йдзе цяпер, як хадзіла раней, да сваіх таварышак, чаму так рана прыбегла ўчора са шлюбу Гехтманавай Мані, чаму ўжо занадта кідаецца раніцай і завіхаецца віхарам каля самавара, каб таварышу Міхасю сваечасова быў чай гатоў перад тым, як яму ісьці на заняткі з салдатамі.

Не, не здарма гэта... Ёсьць тут нешта другое, нешта куды глыбей, чым, ну, сымпатыі гэтыя самыя... Каб ні было, часам, нядобрага чаго... Ён жа рускі, шэйгіц, ад іх усяго можна дачакацца.

І ўспомнілась яму, як год пятнаццаць, а мо чатырнаццаць таму назад згінула яго сястра на Умані. Атрымаў ён тады ліст ад сваякоў і коратка было там напісана: „Маліцеся богу. Сястру вашу забілі ўчора рускія ў час пагрома. Хвала богу, памёрла без пакуты, упаўшы з чацьвёртага паверху на вулічны брук. Будзьце шчасьлівы".

І ўсе годы свайго жыцьця насіў Мотэль у сэрцы затаеную, крывавую крыўду на рускіх. Здаецца, і гаварыў з імі і абыходзіўся добра, але дзесьці глыбока, глыбока ў нявідомых сутарэньнях чалавечай душы захоўвалась гэтае варожае пачуцьцё да іх, да рускіх, да Міхася...

І Міхась адчуваў, што ў адносінах да яго захоўваецца гэта варожая непрыхільнасьць. Учора вечарам ён гутарыў з Мотэлем. Тут жа сядзела Рыва. Мотэль расказваў аб мінулых пагромах, гаварыў:

— ...Рускія толькі самі хочуць жыць, а да другіх ім дзела няма.. Але гэта яшчэ ня гора, кепска тое, што рускія бываюць часам зьвярмі, самымі звычайнымі, самымі дзікімі зьвярмі...

— Ну, гэта ўжо, татачка, вы занадта, хапілі цераз край — умяшалась у гутарку Рыва,—хіба ўжо ўсе рускія і зьвяры, як вы кажаце, да хіба яны ўжо такія нядобрыя людзі, як вы іх абмалявалі. Ну, чым кепскія нашы местачковыя суседзі—рускія, што яны благога вам зрабілі, хіба толькі, як я памятаю,

хлопцы пару гусёў скралі, дык гэта-ж глупства. Калі казаць аб гэтым, дык трэба і пра Міньку слова сказаць. Ён жа яўрэй, па вашаму павінна быць—чалавек добры, а чаму-ж ён коняй крадзе, чаму ён зладзюга? Дык вось, татка, па маёй думцы ўсе людзі, як людзі і як сярод яўрэяў ёсьць добрыя і дурныя, так і сярод рускіх гэта самае і нечага гаварыць аб тым, чаго і ў жыцьці нямашака.

Апошнія словы Рыва прагаварыла з нейкім гарачым запалам, нібы саромілась перад Міхасём за недарэчныя словы бацькі.

— Пажыві з маё, тады і пабачыш, з бацькавых слоў не пасьмяешся. А цяпер, пакуль зеляна-молада, дык нечага і з языком саваццa ў нашы гутаркі і сакатаць сарокай. Пажыві, убачыш...

— Дык я, татка, жыву ўжо і не сьляпая, бачу ўсё. Ну, вось вы кажаце аб рускіх, як аб нашых ворагах. Добра. Але возьмем напрыклад, хоць, ну, вось тавaрыша Міхася — тут Рыва ўсьміхнулась Міхасю такой радаснай, ветлівай усьмешкай,—ці чырвонаармейцаў нашых. Хіба-ж яны нашы ворагі, Яны-ж забараняюць ад ворагаў, ад палякаў, ад розных бандытаў і наша жыцьцё. Чым жа яны дрэнныя, благія людзі?

— Ат... з табой гаварыць, што лапаць плесьці—і Мотэль ўзьняўшысь з зэдліка нездаволены пасунуўся ў другі пакоік, з якога хутка пачулісь усплёскі вады (то Мотэль мыў, ці верней, апалосквaў свае рукі перад малітвай) і потым пацягнулісь нудныя, пякучыя словы яўрэйскай малітвы, у вымове якой нібы захавалась сусьветнае гора, палітае морам сьлёз.

* *
*

Была субота. Міхась з заняткаў прышоў. Ціха ў хаце. Прыбрана ўсё па сьвятошнаму. У больным пакоіку стол засланы зялёным аксамітным абрусам. На куту на століку падсьвечнікі ярка блішчаць начышчанай медзьдзю. На вокнах сьвежыя фіранкі ўсьміхаюцца, прасьціралдамі чыстымі пазасланы зэдлік і столік з шавецкім капыльлем, шыльлем і начыньнем розным, неабходным у шавецкай працы. У хаце ані кагусенькі. Бацькі Рывы ў даведзіны пашлі да сваякоў, да знаёмых. На тое і субота, каб адпачыць, пагуляць, з суседзямі аб жыцьці пагаварыць, аб справах мазольных параіцца і, вядома, трохі і языкі пачасаць аб блізкіх і далёкіх.

Усе ў мястэчку сьвяткуюць, ал багатага гандляра жывёлай Ізраіля да Гілеравай Соркі, якая жыве з дзецьмі толькі тым, што вандруе па вёсках са сваімі таварамі. А тавараў у яе шмат: два грамы сахарыны, штук са дваццаць іголак, не-

кальki карабкоў запалак, сінькі лоты са тры-чатыры, хунт соды, да маткі са тры нітак для гафтаваньня. Калі не бывае і гэтых тавараў, Сорка харчуецц са ўсёй сям'ей, як кажуць у мястэчку, „воздухом“.

Да й не адна Сорка харчуецца гэтым бясплатным прадуктам, шмат і другіх у мястэчку жыве перабіваючысь з хлеба на цыбулю, з цыбулі на рэдзьку. Але ў суботу ня так ярка вызначаецца гэты зваротны бок жыцьця—усе веселы, ува ўсіх чыстыя, больш менш прыгожыя вопраткі. Праўда, кажучы паміж іншым, у некаторых гэтыя вопраткі ўчора былі зьняты з сябе, пабылі ў мыльнай вадзе, высахлі за нач над гарачай шабасовай печкай і цяпер.. добра, прыгожа і весела.

Назіраець Міхась праз вацно сьвятошны натоўп, думае свае думкі. Даўно ён бадзяецца па беламу сьвету, горад родны даўно пакінуў. Раней салдатам быў „непабядзімага, хрысталюбівага воінства царскага“—шмат нацярпеўся, усяго было ў тыя часіны, аб якіх і ўспамінаць ня хочацца.

Цяпер Міхась чырвоны афіцэр. Любіць службу, але ня тою любоўю, якою любілі ў старыя часы сваю службу царскія афіцэры, якія толькі й думалі і сьнілі аб мундзерах, пагончыках, аб шнурках малінавых, аб недасяжным срэбным крыжыку на жоўта-чорнай істужцы, які шырока адчыняў дарогу к новым гвездачкам на пагонах, аб чароўных ножках ня менш чароўных дочак камандыра брыгады якога-небудзь там графа Пшыбышынскага.

Не, ня гэтаю любоўю. .

Любіў Міхась службу не таму, што яна давала-б для яго я нешта надзвычайнае, здавальняла-б яго пачуцьці самалюбства, ці іншыя асабістыя пачуцьці і мэты. Ён любіў яе і аддаваўся ўсей істотай службе ў чырвонай арміі таму, што ў гэтай службе ён бачыў ня толькі сваю справу, але важней за ўсё і паперад за ўсё—вялікую грамадзкую справу, справу сусьветнага пролетарыяту, і службовыя справы заўсёды шлі ў яго самым добрым, пасьпяховым парадкам.

Чырвоноармейцы любілі свайго камандыры, бо ён быў для іх усіх найлепшы прыклад, заўсёды быў справядлівым да кожнага і ўсюды клапаціўся, каб іх жыцьце прайходзіла як мага найлепей.

Вось і цяпер седзячы прад вакном, ён піша паперу—рапарт па начальству, піша, што ўсё супакойна, што заняткі адбываюцца добра, што трэба хутчэй прысляць бялізны, яшчэ што—колечы з адзежыны чырвонаармейцам, бо хутка будзе восень, холадна і г. д.

Напісаў рапарт, успомніў трохі аб сваіх справах. Падумаў,

да якога часу прыдзецца шчэ вандраваць па сьвету, калі гэта прыдзецца заняцца мірнаю працай, па якой так салніць іншым часам сэрца. Аб Рыве ўспомніў. Добрая дзяўчына, прыгожая, аб усім найдзе слова сказаць. У чорных вачох прыветнасьць такая, ціхая, радасная, і ў хаце не сядзіць рукі злажыўшы, заўсёды за працай, мятцы дапамагае ў гаспадарцы, хоць і ў невялічкай гаспадарцы, але-ж клапотнай, на гародзе капаецца.

І разам заныла нешта на сэрцы, нібы правёў па ім хто здалоньню шурпатай, халоднай. Раней за кіпучай працай ня думалася, што жыве ён без сям'і, не адчуваў сябе ў сваім асабістым жыцьці адным—адзіным. А цяпер гэта пачуцьцё—нібы не хапае каго ля цябе, з кім можна, як з самым найблізэйшым, самым дарагім таварышам падзяліцца і горам, і радасьцю, паведаць яму самыя патаемныя свае думкі, адчыніць тайнікі душы. І нібы-та пуста і холадна ў сэрцы.

І ўстаюць перад Міхасём вачы Рывы такія глыбокія, як тое бяздоньне цёмнае, і ў гэтым бяздоньні мітусяцца, гарацъ самацьветам агеньчыкі дзявочай прыветнасьці, радасьці дзявочай. А на вусных—вішнях ружовых—усьмешка, такая прывабная, цёплая ўсьмешка з наіўнаю дзявачаю хітрасьцю, з абяцаньнем шчасьця, пажаданьнем усяго наідаражэйшага чалавеку.

І раптам нешта цёплае нахлынула на сэрца, агарнула яго ціхаю радасьцю з нейкім невыразным смуткам салодкім.

— Папаўся, браце Міхась, не дасталі твайго сэрца ні кулі варожыя, ні ўрэзы бандыцкія, а завалодалі табой, да й яшчэ як завалодалі, дзявочыя вочы чорныя...

Падумаў Міхась, і радасна ўсьміхнуўся.

— Прыдзецца, пэўна, рапарт пісаць па начальству аб сямейных зьменах у маім службовым сьпіску. Але рапарт рапартам, а як Рыва. Яшчэ, брат, далёка да таго, каб запоўніць у сьпіску графу аб сямейным становішчы.

А вось і Рыва. Убегла ў хату, такая прыгожая, зграбная, вясёлая.

— Добры дзень, таварыш Міхась!

— Добры добры, Рывачка, а я вось толькі думаў аб вас.

— Вы?... думалі аба мне? Ніколі вам не паверу, з якой гэта прычыны вам думаць аба мне...—сказала Рыва і зачырванеўшысь, засароміўшысь, ня гледзячы ў вочы Міхасю, села каля зяленага стала. І здавалась Міхасю, што зялёны стары аксаміт абруса, на якім ляжала рука Рывы, зрабіўся прыгожай муравой зялёнай, дзе мільгацяць чароўныя краскі вясеньнія, ліецца пах цьвятоў прыгожых.

— А вот і думаў, Рыва! Аб вас думаў. Скажэце, чаму вы ўчора вечарам так хутка ўцяклі ад мяне, пакінулі гутарку і не паказвалісь потым весь вечар?

— Гэта я... не здаровілась мне .. ну, я і пашла.

— Не, вы хочаце ад мяне захаваць нешта, не кажаце поўнасьцю аб усім. Вот, скажэце, чаго вась бацька пазваў учора?

— Ай... таварыш Міхась, зачым вам аб усім ведаць, да гэта і не цікава для вас. Мала на што пазваў... трэба было матцы дапамагчы вячэру падгатаваць.

— Толькі і ўсяго?

— Толькі і ўсяго

— І болей нічога?

— Ну, што гэта з вамі, таварыш Міхась. Вы дапытваецесь у мяне, як той сьледавацель. Што гэта з вамі ўчынілась і на вошта вам выпытваньні гэты..

— Ну, мне хочацца аб вас усё ведаць, усё-усё, што вы робіце, што вы думаеце, ну што вы думаеце часам .. аба мне?

— Аб вас?

— Хоць бы і аба мне.

— Ха-ха-ха, нічога я аб вас ня думаю і што мне думаць аб вас . Праўда, дзяўчаты нашы сягоньня казалі, што вы, таварыш Міхась, чалавек нічога сабе, добры, іншыя казалі, што з гэтым гоем...

— Што, што?

— Ах... таварыш Міхась, з вамі дагаворышся тут да чаго-небудзь нядобрага...

— Вы вот нейкае слова сказалі, нібыццам гой, ці што іншае. Што гэта за слова?

— Нічога я вам не казала... та вам здалося нешта... Дык вось гаварылі нашы дзяўчаты, што з таварышам Міхасём яны-б і пагулялі ахвотна, калі-б вы былі...

— Ну, чым?

— Ні чым, а хоць бы яўрэем.

— А хіба я так ужо і кепскі чалавек?

— Ня кепскі, але... не яўрэй.

— Ну дык гора яшчэ малае. Я думаў, што вы мяне ў злачынцы якія-небудзь запісалі, ці ў што хужэйшае, а гэта яшчэ нічога.

На хвіліну замоўклі, у вакно зірнулі. Далёка па вуліцы шлі да хаты бацькі Рывы.

— А вот і татка да хаты йдзе, палуднаваць будзем.

— Рыва..

— Што?

— Мне трэба-б пагаварыць з вамі Рывачка, аб сур'езных справах.
— Вам? Са мной аб сур'езных справах? Мо ад шынелю гузік адарваўся, дык я заўтра прыш'ю, сягоньня-ж мама іголкі ня дасьць.
— Да не, Рыва. Якія вам гузікі. Бачаце, я аб другіх зусім справах...
— Ну, дык гаварыце.
— Нельга, Рыва, так хутка сказаць, бо гэта... важная справа, да й бацькі вашы перашкодзяць нашай гутарцы. Трэба, Рывачка, перагаварыць нам як-небудзь адзін па адзін, каб ніхто ня чуў і ня бачыў
— Што гэта, даражэньк. . ах, таварыш Міхась, што гэта вы надумаліся, да й яшчэ занадта сур'езнае.
— Потым даведаецесь. Скажэце, вы ня супроць таго, каб пагуляць сеньня са мной вечарам?
Шчокі у Рывы — адразу агоньнь пякучы, чырвоны. Вочы ў падлогу ўпіліся.
— Не .. немагчыма гэта, таварыш Міхась .. Я ня супроць... Але калі бацькі даведаюцца, бо ў нас вуліцы той жа пакой хатні — самі ня ўбачаць, дык суседзьдзі вушы прагудуць. Не, нельга гэта.. хіба так .. за мястэчкам дзе страцца.. Але што я гавару... І ня думайце... нельга... як гэта можна. .
На дварэ бацькі кворткай рыпнулі. Рыва ўстала, у другі пакоік пашла.
— Рыва!
— ?
— Рывачка!
— Не завеце мяне Рывачкай, завеце проста Рывай.
— Чаму так? Я-ж дагэтуль зваў вас, як хацеў.
— Не завеце так пры бацькох ..
— Чаму?
— Да проста так... Ну, трэба так, таварыш Міхась.
— Адкуль гэта ўзялось у вас: трэба да трэба?
— Ну, мне так хачацца, таварыш Міхась...
— Хіба ўжо так. Ладна. Дык прыдзеце сёньня гуляць са мной? Я буду, як сьцямнее, за мястэчкам... каля старае хвоі...
— Ай, таварыш Міхась, і ня думайце аб гэтым. І якія ў вас там сур'ёзныя справы, хіба і тут пры бацькох нельга абгаварыць...
— Дык ня думаць, кажаце?
— Ня можна... Не... Ах, божа мой і што за чалавек такі... Ну... я падумаю...

Сказала і хутка пабегла ў другі пакоік, адкуль праз хвіліны дзьве-тры ўнасіла талеркі й іншы посуд к абеду. Увашлі бацькі Рывы, скоса пазірнулі на Міхася і Рыву, пачалі распранацца і хутка ўся сям'я сядзела за сталом, спраўляла традыцыйны сьвятошны абед

* * *

— Ах як доўга цягнецца гэты дзень, нібы нітка, калі раз матваеш яе з вялікага клубка. Цягнецца, цягнецца, а канца ня відаць. Паглядзела Рыва на гадзіньнік, а там толькі, толькі яшчэ пяць гадзін. О, гэта нялюбая маленькая стрэлка, ей і дзела няма да таго, што робіцца ў маленькім сэрцы Рывы, якоя сягоньня хацела-б абняць увесь сьвет, якоя хоча крычаць усім і кожнаму аб сваіх радасьцях, апавіць гэтаю радасьцю і родную хатку, і мястэчка, гэтыя кучаравыя бярозы на вуліцах, сенажаць над рэчкай, сінявокі лес са палямі. Маленькае сэрца, а колькі ў ім радасьці.

— Мяне любіць Міхась! Праўда, ён ні слова не сказаў аб гэтым, але-ж я адчуваю гэта з кожнага яго слова, хіба ня відна гэта ў яго вачох.

— Рыва, падай вады.

— Ах, гэта матка кажа... Бацькі...

І бязьмерная радасьць адразу тухне, нібы ў сэрцы агні чорным радном пакрылісь.

—І што я нарабіла. На што я сказала яму, што падумаю. Хіба мне можна... Ну, я люблю, а што што скажыць татка, як загаворыць маці, калі толькі даведаюцца, нават, аб думках маіх.

І хоча Рыва плакаць, і хоча сьмяяцца. Плакаць перад сьцяной, якую пабудавалі людзі ў мінулыя гады праклятых вякоў паміж ёй, Рывай — чорнавокай яўрэйкай і Міхасём — рускім-шэйгіцам, у якога вочы — кавалак блакіту. Сьмяяцца ад радасьці — любіць Міхася, любіць горача, так глыбока, глыбока. Сьмех і сьлёзы, радасьць і смутак, шчасьце і сум — туга шызакрылая ў сэрцы Рывы, у сэрцы дзяўчыны, палюбіўшай гоя.

— Ах... ну што мне рабіць... Сказаць матцы... Пайсьці да яе, параіцца... Не... Усё загіне тады. Ня трэба нікому ні слова, ні адзінага славечка гаварыць аб гэтым...

* * *

Вечар ліпнёвы ахінуў змрокам сінім палі местачковыя. Цішыня косамі шаўковымі ахутала саламяныя хаты, пад месячкам блядым жаўцеюць плямамі пахілыя стрэхі, лес чарнее за рэчкай.

А ў сэрцы Рывы: тах-тах-тах... Вун і хвоя і... ён. Насустрэч ідзе.

— Вы, Рыва?

— Я..

З хвіліну памаўчалі.

— Давайце пройдзем, Рыва, паўз рэчку. Бачаце, як прыгожа там, ці гулялі вы тут калі-небудзь?

— Чаму, мы з дзяўчатамі заўсёды гуляем тут, гэта ў нас самае прыгажэйшае мейсца.

І вы любіце гэтэ месца?

— Ну, як вам скацаць .. вядома, люблю, як і ўсё прыгожае ў сьвеце

— Што-ж у вас яшчэ прыгожага ў сьвеце — у мястэчку вашым?

— А вы думаеце, няма і прыгожага, калі ўжо мястэчка, дык па вашаму і нічога добрага няма. У нас усё добра, усё прыгожа, і само мястэчка і людзі, хоць і лаюцца вельмі часта, але лаюцца так сабе, не па злосьці, а болей за ўсё ад нечага рабіць. Песьні ў нас прыгожыя, і яўрэйскія, і рускія. Да ці мала чаго прыгожага.

— А калі б, часам, давялось вам мястэчка пакінуць, назаўсёды пакінуць...

— Не, тады-б цяжка было, бо тут усё свае, як жа гэта бяз іх жыць можна ..

Прышлі да рэчкі. Па над кручай Міхась подручкі ўзяў. Нейк нязручна Рыве і добра разам, соладка гэтак на сэрцы, добра ісьці, прытуліўшысь блізка, блізка да Міхася, калі адчуваеш тахт яго сэрца.

— Сядзем, Рывачка, на бервяно гэта, бо і ногі нешта ўтаміліся.

— Давайце сядзем, але толькі на хвілінку, бо, бачаце, туман які, аж холадна да і дамоў трэба хутка пайсьці.

— А дамоў яшчэ пасьпеем... Што вы, Рывачка, так далёка ад мяне селі. Пасуньцесь бліжэй трошачкі... Ня хочаце! Ну дык я сам сяду, вось так, цяплей трохі

Цішыня кругом, толькі чуць чуць бульгацяць струмені вады чорнай пад кручай, у якіх, як у люстэрку, захаваліся усе нябесныя зоркі, купае свае халодныя, зелянаватыя промені месячык бляды, якому, мабыць, холадна трохі і хаваецца ён, блукае паміж лёгкіх, срэбна-шэрых хмарак. А там далей на вадзе адбіваюцца агенькі мястэчка, пераліваюцца на вадзе, расплываюцца блішчастымі плямамі, то залатой кропкай скачуць, калышуцца на вадзяных струменях.

Як прывабна тут і чароўна...

А яшчэ Міхась поплеч, казытае дыханьне яго шчаку Рывы, чырванее, палыхае румянцам ружовым шчака, а ў сэрцы цяплынь нейкая, надзвычайная пяшчота нявыразная...

— Рывачка!

— Што...

— Я даўно, даўно хацеў пагаварыць з вамі...

— Аб чым?

— Ах, аб чым, да аб чым. Хіба можна адразу сказаць аб чым...

— І словы гэты нявыразнай пяшчотай казытаюць вуха Рывы. Вось Міхась ціха, гэтак нясьмела, здаецца, за руку ўзяў, пацісну ўе, аж боляча, боляча зрабілась...

— Рывачка.. ну, я...

І цяплом, гэтакім хмельным цяплом аддаюць яго словы, варушаць расьніцы у Рывы.. Яе вочы ўзіраюцца ў вочы Міхася, а ў іх нібы праменяць залатыя зоркі..

— Я.. люблю... вас, Рывачка, люблю цябе, мая дарагая— і прыхіліўся блізка, блізка да яе твару. Не адвярнулась Рыва і гарачыя, трапятаўшыя вусны зьліліс у доўгі, палкі пацалунак. Ах, як хораша, як люба на сьвеце, калі кроў буняіць у сэрцы, галаву спавівае хмелем крэпкім, салодкім і само сэрца, апавітае радасьцю надзычайнай, пачынае нявідомыя патаемныя скокі. То ціха, нібы ў цудоўным зачараваным вальцы, уздымае сэрца свае міламучныя тахты, часам, заміраае зусім, а вось шыбчэй і шыбчэй гэтых няўмíручыя тахты, нібы пусьцілася сэрца ў кадрылі непазнанага шчасьця, яшчэ хвіліна і як ня выляціць сэрца з грудзей, дзе сьціскаюць яго гарачыя, калючыя віхры жаданьняў, песьцяць, казычаць подыхам цяплыні вясновага сонца.

— Таварыш Міхась... Міхась даражэнькі.. ну не нада цалаваць болей... не нада абнімаць так... мне цяжка дыхаць, мой дарагі...

Месячны бляск скача, дрыжыць на вадзе і туман нібы хмель над ракою цэдзіць.

І апавіўшы рукамі Міхасёву шыю, доўга ўглядаецца Рыва ў яго вочы, прыхіляе да сябе, прытулілась шчакой да шчакі, гладзіць, песьціць рукой валасы шаўковыя.

— Міхась мой... мой дарагі..

— Рывачка...

— Што, дарагі?

— Ты... любіш мяне?

— Ах, зачым табе пытаць аб гэтым, хіба ня бачыш ты мой мілы...

Над мястэчкам певень галасістую песьню завёў. Усхапілась раптам Рыва, палахліва зірнула наўкол.

— Міхась, даражэнькі... пара дамоў... позна ўжо...

— Пасядзі яшчэ трохі, Рывачка...

— Не, нельга мілы, дома сьпяць ужо.

— Ну, пойдзем.

— Не... ты пасядзі трохі тут, мілы, разам ісьці немагчыма, бо сустрэне хто... да й дамоў разам нельга...

— Чаму нельга, Рыва?

— Ну, хіба ня ведаеш, што ты...

Не дагаварыла Рыва, але Міхась адразу ўгадаў яе думку.

— „Гой, ненавісны для бацькоў гой"—мільганула чорнаю хмаркай брыдкая думка. Але шчыры, гарачы пацалунак адразу разьвеяў гэтую чорную хмарку.

* *
*

Усьміхнулась раніца усьмешкаю сонечнай саламяным хатам. Прачнулась мястячка, прачнулась і Рыва. Завінулась каля работы хатняй. Кіпіць работа ў спрытных руках, а ў сэрцы—сонца косы залатыя сплятае, ўплятае ў іх радасьці чалавечай каралі зямчужныя. Эх, як лёгка дыхаць, як хораша жыць, калі думкі кросны снуюць з жыцьця, з лятуценьняў, з пажаданьняў бурлівых.

Учарашняе, здаецца, нібы ў сьне чароўным, прыгожым. Але гэта ня сон, ці гарэў бы на вуснах і цяпер яшчэ пацалунак гарачы.. І ўсьміхнулася радасна Рыва.

— Што гэта з табой? Чаго ты сьмяешся гэта, здаецца, і прычыны няма.

Ага... гэта бацька. Ля сьцяны дратву сукае, шуруе яе пекам смаляным, гатуе дратву на цэлы дзень, а то й на два.

— Гэта я, татачка, так сабе, успомніла пра нешта сьмешнае—учора цётка расказвала...

— А-а... ну, сьмейся, сьмейся. На то і гады твае, каб сьмяяцца шчасьліва. А потым, потым...—не дагаварыў бацька, уздыхнуў цяжка, прымастраваўся на сваім скрыпучым зэдліку і заняўся якімсьці лапікам на старым парыжэлым чобаце. І толькі ў думках у яго было:

— А потым... потым вось гэтыя лапікі рыжыя.. жыцьцё і лапікі.. Пройдуць яшчэ гады і зробішся сам гэтым зморшчаным лапікам жыцьця, нікому не дарагім, нікому не патрэбным. І выкінуць адарваўшыйся лапік на сьметнішча... у бруд... у пыл... Дык вось яно як... жыцьцё і лапікі... не да сьмеху...

Ніжуцца думкі ў галаве старай, абрываюцца часта, як нітка струхлелая, ізноў цапляюцца, гудзяць часам звонкай струной успамінаў аб гадох пражытых, гадох ранейшых, гадох маладосьці кучаравай, бо на пазьнейшыя гады адмаўляецца памяць, хавае іх у шэрую муць. Што было ў дні юнацтва і маладосьці — як на далоні стаіць, а вось што пяць ці шэсьць год назад — імглою, туманам пакрылась. І чаму гэта так—дзівіцца стары. І сам сабе ўголас адказвае:

— А таму, што лапікі гэтыя самыя...

— Што, татачка?

— Нічога .. Ці скора там самавар у цябе будзе?

— Зараз, тата, вось толькі вугальля яшчэ трохі палкіну.

— Падкідай, падкідай галубка, а то нешта чаю хочацца. Што гэта я сказаць табе хацеў? Ага, вось успомніў. Тут у госьці да Шэвеля пляменьнік яго з гораду прыехаў, малады яшчэ чалавек, прыкашчыкам там дзесьці ў горадзе ў багатым магазыне служыць.. Але гэта не галоўнае... Учора Шэвель казаў мне, што пляменьніку яго занадта ты спадабалася ад усіх дзяўчат...

— Ай, татка, яшчэ што, спадабалась, да спадабалась... Прыехаў і няхай гасьцюе на здароўе, калі хоча, якое мне да яго дзела...

— Ну, вот і засакатала ўжо, якое, да якое ёй дзела. Вядома, дзела... Дык вось, сягоньня ён сабіраецца наўмысьля зайсьці да нас, з табой пазнаёміцца бліжэй хоча, дык ты, глядзі ўжо, сама ведаеш... не маленькая... прычапурыся, ну, хоць у тое плацьце шаўковае, якое дзядзька твой з Кіеву прыслаў.

Дзе дзявалася ранейшая радасьць Рывы, адразу спахмурнела, трубой аб самавар няўмысьля гучна ляснула, вочкі вугалём разгарэлісь.

— Ня трэба мне прыкашчыкі вашы. Няхай і ня йдзець. Дарам час сапсуе...

— Чаму?

— А мяне і дома ня будзе...

— Як гэта ня будзе?

— А так і ня будзе, пайду гуляць куды-небудзь.

— Ну, жарты жартамі, а дзела дзелам. Што-ж ты хочаш мяне перад мястэчкам сароміць. Дзе-ж гэта відана, каб жаніх у дзьверы, а нявеста з хаты?

— Што вы, татка, гаворыце, які жаніх, якая нявеста? І што гэта за спрытнасьць у вас такая, ужо і пажанілі ў думках, хіба я ўжо вам так надаскучыла?

— Не надаскучыла, а сама ты ведаеш, што замуж выхадзіць табе-ж трэба

— Ну дык што, што трэба. Ну і выйду, але-ж ня так ужо раптам за першага стрэчнага - папярэчнага, як вы хочаце.

— Ну, ты там як сабе хочаш, але-ж прыняць чалавека трэба, трэба і пагутарыць з ім.

— Калі вам хочацца, дык і гутарце з ім на здароўе, а мне некалі, у мяне працы хопіць...

— Ну, Рыва, глупства казаць нечага, павінна быць так, як я хочу.

— І яшчэ павінна быць так, як хочу я...

— Рыва... не забывай, што гаворыш з бацькам, а хіба я табе зла жадаю?

— Жадаць не жадаеце, а зрабіць можаце...

— Ну добра, а за каго-б табе хацелась выйсьці? Ну, вось, скажы, як бацьку... Хто болей за ўсіх спадабаўся табе?

Ну што казаць? Хто спадабаўся?. Хіба скажаш бацьку аб тым чалавеку, хто даражэй за ўсё для яе на сьвеце. Ах... самавар закіпеў. Вялікае яму дзякуй... Трэба чай запарваць, посуд прыгатаваць. Заюшылась Рыва каля самавара і бацька адстаў са сваімі пытаньнямі, цягае дратвай у задуменьні, калупае шылам старыя лапікі.

— Як добра-б было, калі-б мой Міхась дарагі ня рускім, а самым-бы звычайным местачковым яўрэем быў. На што тады і ад бацькоў хавацца, палохацца гэтых вуліц родных, захоўваць сваё шчасьце глыбока, глыбока ад паганага іншым часам вока людзкога — думае Рыва,наліваючы бацьку стакан чаю.

* * *

Размовы з бацькам ўвесь дзень атруілі А тут яшчэ матка таксама прыстае з прыкашчыкам гэтым, потым пачала занадта хваліць Піню - разьніка, які па яе словах, аб Рыве так уздыхае, што чуць памяць ні страціў, кашэрнага ад трафнога не адрозьніць і пазаўчора сунуў старай Шэманісе замест кашэрнага — пеўня трафнога. Зьелі Шэманы пеўня. а як даведаліся, перапалохаліся, к рабіну на параду бегалі і апошні сказаў:

— Хоць вялікі грэх, але нічога, на Піню грэх ляжа, не на вас.

Паведаміла матка і аб крамары Еселе, які нібы матцы сваей прызнаўся, што яго сэрца даўно сасьмягла па Рыве,

як той гаршчок чымусу, што доўгую, доўгую прадсуботнюю ноч сьмягне ў печы, пазамазанай у пятніцу глінай, захутанай трапкачамі, каб не астыгла цяпло.

— Годзе, мама... І к чаму вы мне ўсё гэта кажаце?

— Як гэта к чаму... Хіба мне ня радасна, што у маей дачкі жаніхоў столькі... Вось толькі трэба яшчэ шубу табе набыць, чаравікі новыя, жоўтыя... ну, да за гэтым справа ня стане..

Нелюба Рыве, прыкра. І любіць яна матку, ой як любіць, але пачынае сэрца пацiху садніць, калі матка пералічвае на пальцах усіх „уздыхаючых", да загаварвае аб тым, што ня шкодзіла-б пер'я купіць на пярыну новую для яе, для Рывы, бо — „на старай як жа вам спаць"...

А вось і прыкашчык прышоў, пляменьнік Шэвеля Зірнула Рыва і ў думках усьміхнулась. Растаропны такі, апранаха з іголачкі, гальштук стракаты павіс з пад каўняра белага, на які абвісьлі дрыготныя, аблiўшыяся тлустам шчокі. На гальштуку шпонька блішчыць — жабка валавяная з зялёнымі шклянымі вочкамі А вочкі ў самога нібы масьліцам. ці смальцам гусіным памазаны, бровi-скваркі гусіныя. Самаму гадоў трыццаць шэсьць—трыццаць восем.

— Добры дзень...

— Дзень добры, добры... Як гэта вы надумаліся да нас зайсьці — і на матчыным твары ветлівасьць ракой расплываецца. Іначай і нельга, як-жа можна, жаніх, да яшчэ які, такія ў мястэчку рэдка бываюць.

— А так, па суседзкі, як жа не зайсьці.

— Дык сядайце, калі ласка...

З Рывай знаёміцца. Трэба і ёй ветлівай быць, хіба-ж хочацца бацькоў крыўдзіць.

— І як гэта я з вамі да сёняшняга дню не знаём, і жыву блізка ад вас і трэба-ж гэткае здарэньне, ня ведаць пра вас, не гаварыць з вамі...

Матка пацiху, няпрыметна на задні план адступае, адышла, нібыццам, фіранку паправіць і хутка вышла ў другі пакоік, не прыходзіць...

— І ня нудна вам жыць у мястэчку, у балоце ў гэтым.

— Ну, каму балота, а нам лес зялёны...

— Што вы кажаце, не паверу, я-б, здаецца, і месяцу ня выжыў бы тут. Так яшчэ, тыдзень які, як цяпер у гасьцёх, і цярпець яшчэ можна, а каб болей, дык... о, не..

І адразу:

— Ах, якія ў вас прыгожыя ручкі!

У Рывы чырвань на шчокі паўзе.

— А вашы вочы .. якія прыгожыя ножкі, маленькія ..

І холадна гэтак, сурава адказала Рыва:

— Вам што?... Чаго трэба?. Справы якія — дык пагаварыце з бацькам...

Бачыць гэрой — не паласа, куды і растаропнасьць дзявалась. Маўчыць, за капялюш узяўся, такім мяжджулым зрабіўся і вочкі лыпаюць, як ў курыцы старай павекі. Вось узьняўся.

— Ну, дык бывайце здаровенькі...

— Шчасьлівай дарогі..

У дзьвер ідучы аб плінтус ілбом лузнуўся, гуз набіў і шпарка, зачырванеўшысь, вышаў у сенцы.

— Ох... — палягчона ўздыхнула Рыва. А вось і матка.

— Ну, што, пагаварылі?

— Пагаварылі...

— Ну й добра, дачушка.. Толькі ж нешта вы хутка занадта?

— А хіба доўга гаварыць трэба?

— Так, так .. — кажа матка і хутка йдзе да старага Мотэля паведаміць яго, што ўсё йдзе добра, пагаварылі. .

* * *

А вечары адзін за адным ідуць чарадой нязьменнай. Толькі змрок сінявокі ахутае вуліцы, узьнімецца взлюмам белым туман над ніцымі прыбярэжнымі лазьнякамі і расой убяруцца паля й мурагі — прабіраецца Рыва праз агароды, да зямлі туліцца, палахліва азіраецца наўкол а ў галаве думка адна:

— Ах, каб нікога. . каб ніхто не сустрэўся..

А Міхась па над кручай сядзіць. У яго свае думкі:

— І ня ведаю што рабіць. чым дапамагчы і сабе, і ёй... Хіба-ж гэта ня дзіўна: любім, шчыра любім адзін другога, а на людзі не паказвайся да й нават хавай свае пачуцьці, бойся кожнага свайго слова пры людзёх. Да й мне ня трэба выказваць сваю любоў на людзёх, але ці добра ж гэта, калі хаваешся, нібыта значынец які, нельга па вуліцы прайсьці, нельга днём гаварыць з ёй. Усе людзі, як людзі, а ты беражыся на кожным кроку. Не, не палюдзку гэта. А як інакчай... А вось і яна Рыва.

— Ну што, прачакаўся, Міхась, а мне, даражэнькі, усё не было часу выйсьці. То ў хаце што загадаюць, то на вуліцы народ ходарам ходзіць, няведама, як і прабрацца

—Рыва... ну зачым нам далей хавацца гэтак, ня будзем жа век у схоўкі з бацькамі гуляць. Давай скажам ім і ўсё добра будзе

— Ах, Міхась, дарагі, ну што ты гаворыш. Хіба ты бацькоў маіх ня ведаеш. Паспрабуй, скажы ім і ўсё тады прападзе, мяне з хаты ня выпусьцяць ні на крок.

— Дык ты-ж не маленькая, не захочуць яны, ну, і клопату столькі... Хіба-ж кланяцца будзем, сьвет перад намі вольны.

— А не, мілы, ня можна так. Хіба я пакіну сваю маці, ці татку, каб яны зласаліся потым на мяне, праклінал? маё імя... Да й я-ж люблю іх, хіба ахвота мне крыўдзіць іх.

— Ну дык ты мяне ня любіш.. ну так жа выходзіць — бацькі табе даражэй, чым я...

— Міхась, што ты кажаш.. Хіба так можна... — і шчыры гарачы пацалунак Рывы бяз слоў гаворыць зусім другое: любіць Рыва і як яшчэ любіць.

— Даражэнькі Міхась... Падумай, ці хочацца гэта мне хавацца, але трэба так пакуль што, няхай не адразу бацькі даведаюцца, звыкнуцца потым і ўсё добра будзе...

— Прывыкаць і дзесяць год можна...

— А не, Міхась, неўзабаве і ў нас усё добра будзе, на што тады і ад людзей, да ад бацькоў хавацца...

* * *

І шэпчуцца раніцой ля калодзежу суседкі Хася і Лія:

— Ой, каб ты ведала, Хася, што бачыў мой брат учора, ідучы позна вечарам каля рэчкі.

— Ой, ой, што ты кажаш, мо' страх які, мо' утопельнік які выплыў?

— І што там утопельнік, хужэй..

— Ой, гавары хутчэй!

— Рыву там бачыў?

— Рыву? Ну што, ну?

— З салдатам сядзела. .

— Ой, ой, ой... як можна... і з гэткага дому прыстойнага і бацька — чалавек такі чэсны і маці, ой, што скажа маці... Ну?

— Ну. сядзела, казаў, і гаварыла з камандырам гэтым, што на кватэры ў іх..

— Ой, божачка, ой-ой і што на сьвеце робіцца, ой, гвалт... Ну?

— Ну, і ён яе пацалаваў...

— Караул, ратуйце.. Пабягу, хтучэй Песі скажу.

Праз хвілін пяць усё мястэчка ведала, як учора Рыва з Міхасём сядзела і як ён яе пацалаваў. Здаецца, усё мястэчка ўзварушылась, асабліва жаночае, насяленьне. Замітусіліс суседкі, бегаюць адна да другой.

— У мяне запалкі нешта вышлі, нечым печ распаліць — пазычце тым часам .. Не, шархала ня трэба, у мяне там пусты карабок застаўся... Дык чулі? А .. чулі ўжо. . Ой-ой, што робіцца.

— Ці не пазычыце хунт хлеба на абед, свой яшчэ ў печы. Чулі? Ой, ой .. што і казаць..

І ўсё мястэчка перапазычылась за адзін дзень на целы месяц. А калі Рыва хадзіла ў каапэратыў, то ўсе ўглядаліся у яе, як на нейкі цуд вялікі, нібы бачылі Рыву ў першы раз. Углядваліся, ківалі сумна галовамі і шкадавалі. не яе (хіба можна шкадаваць праступніцу), а бедных бацькоў, якія, ой, ой, якія-ж добрыя людзі ..

І калі вечарам, трохі спазьніўшысь, Рыва да дому прышла, яна застала матку зусім заплаканай, засмучонай, а бацька раптам падняўшысь на зэдліку, сурова запытаў:

— Дзе была?

— Дзе была... у цёткі была, а што?

— Ты ў цёткі была... Дзе-ж твае вочы, дзе твой сорам, калі ты мне, мне—твайму бацьку, пачынаеш ілгаць у вочы... Ой, гора маё, вялікае гора і за чые грахі павінен несьці я пакуту гэтую, каб мая родная, мая любая калісьці дачка і, на табе, спазналась . з кім... з гэтым гоем агідным, з гэтым няшчасным шэйгіцам...

— Дачушка мая . ой, божачка мой, што ты нарабіла... зачым табе захацелась зьняважаць валасы мае сівыя...—голасна казала маці

— Татачка .. мама... я не разумею, аб чым вы гаворыце...

— Паглядзеце на яе! Яна яшчэ не разумее... яна ня хоча разумець... яна ня думае разумець... яна мае сьмеласьць насьміхацца над намі...

— Татачка!

— Замоўчы, нягодніца... зачыні свой паганы рот.

— Божа мой, ну што вы ад мяне хочаце...—і залілась Рыва сьлязьмі, балючымі, нястрыманымі

І ўсю ноч ня спала Рыва, думкі, адна другой цяжалей, мітусіліся у зморанай галаве, ліліся на падушку сьлёзы крыўды, цяжкай чалавечай крыўды.

— І што ім трэба... І што я зрабіла кепскага, чым я пакрыўдзіла, чым не дагадзіла бацьком сваім І хіба-ж яны ня добрыя, яны ж любяць мяне. Зачым-жа яны Міхася лічаць такім кепскім чалавекам, што ён кепскага зрабіў ім. Ну што мне цяпер рабіць, што думаць ..

Толькі пад самае раньне заснула Рыва хворым, нэрвовым сном.

* * *

А раніцой ізноў узьнялісь на захадзе спалохаўшыя ўжо раз мястэчка гукі. Ізноў жыхарства загаварыла аб вайне, загаварыла аб тым, што блізка палякі, ізноў незабясьпека. На дзень, на другі забыл ся і пра Міхася, пра Рыву.

Раз днём Міхась з заняткаў прышоў вельмі хмарны і смутны. Дачакаўшысь хвіліны, калі бацькі Рывы вышлі з хаты, ён паведаміў:

— Рывачка, сягоньвя я выходжу з чырвонаармейцамі з мястэчка, гэтак гадзіны праз дзьве, павінен на фронт ісьці...

Рыва, як падсечаная, апусьцілася на зэдлік, зірнула дзіка на ўсё і доўгі працяжны ёнк вырвайся з яе грудзей.

— Што-ж я буду рабіць цяпер, бацькі зусім не дадуць жыцьця, яны кожны дзень будуць дапякаць табой..- Да й што з табой будзе там... на фронце . О, якая я няшчасная і зачым я ўрадзілась на сьвет...

І пакаціліся пацеркі сьлёз, плакала Рыва, плакала ціха, наўзрыд

— Рывачка... ну годзе.. даволі.. Хіба-ж я зусім растаюся з такой .. Хутка, хутка і мы будзем ізноў умясьцёх. А бацькі... ну я перагавару з імі, яны ня будуць мець нічога супроць цябе...

— О не, не .. Міхась дарагі, не гавары, нічога не гавары з імі.. Няхай будзе, як будзе...

У хату бацькі ўвашлі. Зьдзіўлёна пагляезелі на заплаканы твар Рывы і моўчкі ўзялісь за працу Міхась складаў свае рэчы, укладваў вопратку ў ранец і ў невялікі куфэрак. Вось і ўсё злажыў, пастаяў з хвіліну, к бацьком падышоў.

— Дазвольце адзьдзякаваць вас і за кватэру, за ўсе тое, што я бачыў тут добрага да мяне, за ..

— Як жа гэта, куды ж вы гэта пераходзіць думаеце, хіба на другую кватэру?—запытаў зьдзіўлёна Мотэль.

— Не... зусім з мястэчка ..

Зірнулі ўсе ў вакно, а там на вуліцы ўжо ўся рота ў паход сабралась ..

— Дык што-ж гэта такое?

— А нічога... мо' хутка ізноў убачымся, на фронт ідзём цяпер.

— А-а! Вось якая справа... Ну дык шчасьлівай дарогі вам.

— А вам шчасьліва аставацца...

Міхась усім руку падаў, за парог ідзе. І раптам усхапілась Рыва. Адна хвіліна і ахапіла Міхася за шыю, на грудзі к яму галаву прытуліла...

— Міхась... Мой дарагі... Мой мілы... Ты ж забудзешся там аба мне, мой любы... Міхась, мне страшна, мой родны, заб'юць цябе там і нічога, нічога я ня буду ведаць, дз: ты і што з табой, мой каханы...

— Рыва, Рывачка, супакойся. Усё добра будзе і ты аба мне усё ведаць будзеш—ад мяне лісты палучаць станеш...

Пацалаваліс на разьвітаньне. Пашла Рыва ў хату, села на зэдлік у куточку, упялась у падлогу вачмі засмучонымі.

— У-у,.. погань няшчасная... божа, божа, да чаго я дажы-ыў —прашыпеў злосна, злосна бацька і зноў уюшыўся ў дратву.

У маткі на вачох сьлёзы мігцелі.

* * *

Пацягнуліс дні за днямі, шэрыя, нудныя. Працуе Рыва як і раней, але ўжо ня чутна яе звонкага сьмеху ў хаце. Пасьля працы ходзіць сумная, выраз твару задумённы найболей, нібы думае штосьць, вырашае нешта цяжкае, цяжкае... А бацькі кожны дзень раюцца, гутараць між сабой:

— Ну што мы цяпер рабіць будзем... з ёй... [іначай і не называе цяпер Рыву бацька]—кажа Мотэль да жонкі.

— Ну што рабіць—адзін бог ведае, што рабіць, да й ты павінен ведаць, ты-ж мужчына, ці ты-ж не гаспадар сваёй хаце..

— Лёгка сказаць, што рабіць... А калі.. часам.. [і ціха, прыдушана вырываюцца гэтыя словы], калі гэты.. шэйгіц.. ну... згвалціў яе... тады што?

— Ой, што ты, ой, божа, не кажы гэтага, не перанясу гэтага, не перанясу-у-у, ой-ой...—і заліваецца маці сьлязьмі, сударгана ўздрыгваюць яе старыя плечы, з сівых валасоў спаўзае і падае на падлогу хустка.

— Ну, нечага там. Сама нарадзіла во'дачку сабе, цяпер і... пацяшайся з ёю.. Але вось што павінен я сказаць табе, трэба хутчэй замуж яе выдаць, мо' тады нічога з ёй кепскага і ня выйдзе: замужжа захавае яе... сорам...

— Хто-ж яе возьме цяпер?

— Ну, вядома, добры чалавек, ці з маладых хто і ня возьме. Ну... а з старых якіх-небудзь, на якога добрая дзяўчына і не паглядзіць, той мо'часам і падумае ўзяць..

— Ой, ой... маё дарагое дзіцё, што ты сабе... што ты нарабіла..

І ўжо і жаніх на прымеце: стары Нэйлух, які скупляе на вёсках караўкі, рызьзе трухлявае. У яго жонка памерла, а трэба-ж каму гаспадарку прыглядзіць, бо Нейлуху некалі, заўсёды ён вандруе са сваім канём лапавухім па вакольных вёсках.

— Вось і скажу яму калі ндбудзь..' гаварыў жа ён мне аб жыцьці сваім, скардзіўся.

Вечарам маці к Рыве прыстае:

— Дачушка, ну скажы мне, як матцы...

Маўчыць Рыва, не зварухнецца

— Рыва... дачка мая..

— Што вам, мамка, трэба?

— Ну скажы мне, дачушка, ну.. ці...

— Ну што?

— Ну... ці жыла ты з ім?

Усхапілася Рыва і рукі сабе ломіць, на матку зло, зло пазірае.

— Калі вы мне, мамка, хоць яшчэ адзін раз, толькі адзін раз скажаце пра гэта самае, тады памятайце... Вы хочаце, вы жадаеце таго, каб я няйначай ці зьверам зрабілась, ці звар'яцела, а мо'хочаце, каб я зараз-жа тапіцца пашла.. Мо'хочаце гэтага..

Матка назад адступае спалохаўшысь. Бацька ўвайшоў.

— Што гэта? Чаго ты?

— Татачка, любы...

— Не заві мяне татам, я табе ня бацька цяпер, і ты мне не дачка.

— Божа, божа..

— Не пагань, распусьніца, божага імяні...

* * *

Вось чаму плакала Рыва..

* * *

Яшчэ месяц прашоў. Нічога ня чутна Рыве аб Міхасю. Дзе ён і што з ім—нічога ёй няведама. Бацькі не гавораць з ёй, пра замужжа думку пакінулі, бо на ўсе іхныя словы яна то адмоўчваецца, то заліваецца сьлязьмі.

І ў мястэчку пра Рыву і Міхася забыліся. Не выходзіць Рыва нікуды на вуліцу, да й людзям цяпер не да таго, каб аб другіх языкі часаць. Другі час настаў і цяжкі час у жыцьці мястэчка.

Накацілася на яго ціхія вуліцы грозная і крывавая хваля, хваля вайны. Адступілі чырвоныя. Дні тры ў мястэчку панавалі палякі. Доўга будуць памятаць местачкоўцы гэтае панаваньне. Адступаючы пад новым націскам чырвоных палякі пакінулі на памяць аб сабе новыя, сьвежыя могілкі—растралялі раніцой чалавек з дванаццаць жыхароў местачковых на плошчы каля старай сінагогі.

Растралялі так сабе, ні за што, ні пра што, для прыгрозы, для парадку, як яны казалі. Да самага вечару ляжалі акрываўленыя трупы ў чырвоных калужынах і ашклянеўшыя вочы забітых пазіралі безнадзейнасьцю сьмерці ў далёкае неба, адкуль сонца пасылала свае залатыя ўсьмешкі—промені, зайчыкамі мігцеўшыя ў мертвых вачох.

Усе баялісь падыходзіць да трупаў і толькі ноччу галасілі ў цемені плошчы старыя маткі. Галасілі па рознаму, на розных языках, але аднолькава безнадзейна, поўныя нявыразнага адчаю гучэлі і словы старай Ліі:

— Ой майн зунэлэ, ой майн таерэр...

І словы старай Ганулі:

— А мой сыно-о-чак, а мой дарагі-і...

Розныя былі словы, але аднольковыя ліліся сьлёзы чалавечыя, матчыны сьлёзы.

Прайшло дні са два. Была пятніца. Трохі ачуняла мястэчка, пахавалі забітых, сумесна паплакалі, пагаварылі і зноў сабіраліся за працу ўзяцца. І толькі пачаў народ са плошчы разыходзіцца, як прыбег з суседняй вёскі ўвесь у пылу, заморany, гразным потам абліты сын Шэвеля, малады шавец Янкель. Вочы дзіўныя нейкія, спалоханыя, закрычаў не сваім голасам:

— Уцякайце, куды хто. Там... Балаховіч... Зараз тут будзе...

Болей ня трэба гаварыць Янкелю. Даволі аднаго слова — «Балаховіч», штоб усе, нібы страціўшы розум, пабеглі па сваіх хатах. Чулі ўжо аб Балаховічу, ведаюць...

А вось і яны... На ўзмыленых конях шалёна праскакалі два коньнікі, забіўшы на вуліцы малую дзяўчынку. Папалась яна віском пад цяжкую зялезную падкову капыта конскага і заскраблі маленькія ручкі пыл лёгкі дарожны, пальчыкі сударгава сьціснулі залацістую саломінку, сьціснулі, не выпускаюць. Чырвоная істужка зьляцела з валасоў на пясок жоўты і радам тут-жа новая істужка пясок апавіла, засьвірчэла кроў з прабітай галоўкі.. І пад сонцам чырваней гарыць кроў, чым шоўк, чым істужка дзяцінная, шаўковая...

А коньнікі ў канцы вуліцы з коняў пасаскаквалі, угору стралялі, крычаць:

— Гэй, па хатах усе. Хто ўцякаць будзе—зараз прыстрэлім.

Па за гародамі ўжо поўна коньнікаў, не пускаюць нікога бегці ў поле, у балота зялёнае.

А вось і галоўны атрад. Скачуць, гарцуюць гарачыя коні пад балахоўцамі. Папераддзі камандыр, задуменны, хмарны. На рэмяні кольт баўтаецца, пара бонб прычэплена з боку. Едзе, пазірае скоса з пад русых брывей, сачыць за вокнамі ў хатах.

За ім чалавек з сорак салдат. Цьмяныя шэрыя шынелі, новыя жоўтыя паясы раменныя, шызыя баранчыковыя шапкі. Некалькі калымажак з кулямётамі. На адной заліваецца на шалёныя галасы гармонь, ёй дзіка падпяваюць некалькі п'яных салдат. На плошчы супыніліся. Чакаюць чагосьці. Ага, вядуць некага. не вядуць, а гоняць, падганяючы карабіннымі шанпаламі.

— Ганіце іх сюды, вось да гэтай сьцяны. Стаўце іх тут каля сінагогі.

Абарваныя, закатаваныя, пазьвязваныя калючым дротам адзін да другога, стаяць чуць жывыя дзевяць яўрэяў, прыгнаныя з суседняй вёскі. Балахоўцы сьпяшаліся да мястэчка, не хацелі ў вёсцы расправу рабіць, баяліся, каб хто не панярэдзіў аб іх прысутнасьці местачковае жыхарства.

Паставілі ля сьцяны.

— Ну. вы, госьці нашы каханыя, хіба нам ня рады, скажэцэ ка, мілыя, як спадабаюцца вам большавікі—вашы дарагія збавіцелі.

Маўчыць жывы чалавечы плот, адзін паваліўся ў сярэдзіне, але падштырхнулі яго. паставілі ля сьцяны.

— Ну, дык што-ж гэта маўчыце вы, дзе-ж языкі вашы, хіба ад радасьці рты пазамкнула?

— Зьверы вы, а ня людзі, таму і маўчым мы...

— А ну, пасаліце ка гэтаму разумцу гаршчок трохі, каб ня прэсна было яму на тым сьвеце, часам.

Блісную прыклад ружэйны і з разьбітай чэлюпі пацякла ліпучая, гарачая жыжка.

— Ну, дык вось што. Хто хоча з вас жыць? Усе хочаце, ха-ха-ха-ха, не, пачакайце-ж трохі. Той будзе жывым з вас, хто „своею собственной рукой", як кажуць вашы таварышы бальшавікі, растраляе ўсіх астатніх. Ну, што-ж? Чаму няма ахвотнікаў? Хіба нікому ня хочацца жыць, хіба так занадта вам хочацца папасьці ў рай? А заўтра-ж сьвята, ваш шабус вялікі... Ну, ахвотнікі, хутчэй.

— А што з імі валэндаццa! Іваноў, твая справа!

— Слухаюсь, гаспадзін падпаручык, зараз прыкончу. Толькі дазвольце мне адной куляй забіць усіх, бо спрачаліся мы з Сідарэнкам—колькі чалавек адна пуля праб'е. Ён кажа —два, а я кажу—тры. На цэлага паўрубля паспрачаліся.

— Ладна, рабі, як хочаш, а мы расьцяваць да хат пойдзем.

Усіх палонных паставілі ў рад: адзін канец шарэнгі ля сьцяны, другі на вуліцы. Іваноў крайняму ў вісок цэліцца. Стрэл сухі, нэрвовы. Чэрап пярэдняга раскалоўся на некалькі частак, мозг суседзяў забрызкаў, кавалачак казырка, адбітага куляй, падскочыў у гору на сажань і павіс на фортцы акна ў сінагозе. Першы і другі чалавек, два зьвяны жывога чалавечага плота, не здрыгануўшы ні рукой ні нагой, пасунуліся ціха на зямлю, пацягнуўшы за сабой калючым дротам суседзяй.

— Га... адной куляй іх, брат, не заб'еш, прайграў паўрубля.. А ну, эй хлопцы, адыходзь ад іх падалей, каб не было граха часам...

Апошнія салдаты да хат пашлі. А дзьве чорныя, граненыя бонбы францускія, адна за адной ціха зьвякнулі к нагам палонных. Шыпяць бонбы, ўюцца з іх капсуляў медных бліштастых танюткія нітачкі блакітнага дыму, завіваюцца ў пярсцёнкі ў паветры. Нібы зачараванымі, акругліўшыміся вачмі глядзяць на гэтыя празрыстыя нітачкі салодкага, даўкага дыму палонныя, глядзяць, не зварухнуцца.

І цяжка ўздрыганула мястэчка, зазьвінелі жалобна шыбы ў саламяных хатках.. Сінагога сьляпой стала—высыпалась шкло з акон. Уся плошча ахуталась высокім слупам чорнага дыму і пылу.

— Ну, цяпер болей ня ўстанеце...

А ў хатах людзі богу маліліся. Іншыя сядзелі нярухома, упяўшысь вачмі ў вокны, на вуліцу. Ціха і ў хаце Рывы. Рыва ў падушку галаву уткнула, думкі адна за адной плывуць, безнадзейныя, чорныя як хмары васеньнія.

— Усё загінула... І жыцьцё... і Міхась... І ўсё, ўсё на сьвеце...

І міжволі ўспомніліся бацькавы словы: „Пажыві, убачыш“...

— Няўжо праўду бацька казаў, няўжо ўсе... толькі зьверы. .

Бразнула дзьвер, аж затрымцелі талеркі ў шафе.

— Гэй, сволачы, дзьвер адчыняйце, ні то выб'ем адразу.

Б'юць у дзьвер ружжамі, шалёна б'юць.

— Пачакайце, адчыню зараз—і старыя дрыжачыя рукі доўга, доўга кручок адшчапляюць, засаўку адкінулі.

Увалілісь у хату, каля шафы ўзьюшылісь, рэзанулі ружжом у яе шкляныя дзьверцы, зазьвінелі талеркі, пасыпалісь з грукатам на падлогу, звонка дзынкнуў чайны паднос.

— Гэй, дзе серабро! Ну, гавары..

— Няма... вун срэбныя лыжкі...

Адзін з рэвальверам падскочыў да Мотэля. Прыціснуў халоднае дула к яго пабялеўшаму віску.

— Золата давай... Ну, гавары, дзе яно, да хутчэй...

— Няма... якое ў мяне золата...

— А-а... няма, кажаш, пастой жа, я прымушу твой паганы язык загаварыць па іншаму. Вось слухай, я буду табе гаварыць: раз, два, тры .. І калі ты мне не скажаш да трэцьцяга разу, дык ведай, тры—гэта твая сьмерць.

— Божа, мой божа, што я скажу вам...

— Ра-а-з... два-а...

— Стой, стой, ня трэба біць яго. Заб'еш—зглуміш усю справу, Давэй-ка мы распытаем яго, разьвяжа тым часам язык...

А Рыва і матка Рывы сядзяць у няпрытомнасьці цяжкай.

Штыхам лямпу бронзавую са столі сарвалі, на кручок вяроўку закінулі. Падцягнулі Мотэля, зацягнулі пятлю на шыі.

— Ну, ня хочаш казаць, вырадак, чортаў? Ня хочаш? Падцягвайце хлопцы да столі. Нябось, загамоніць...

Апамяталась Рыва, кінулась да бацькі, кіпцюрамі ўчапілась у твар аднаму з катаў.

— А... і красотка тут. Прытрымай яе там, прыгадзіцца толькі глядзі, брат... пасьля, не цяпер...

З крыкам дзікім да Рывы кінулась матка.

— Прэч, ведзьма старая...

І блішчастае джгала саблі са сьвістам узьляцела ўгору і..

Што гэта? Нібы сьцёбнуў хто па вакну бізуном сталёвым. Паляцелі шкляныя брызкі, дым на падлогу сьцелецца, салодкі парахавы дым, узьвіваецца пад чорную столь.

Узьнятая сабля ціха дзеўбнулась астрыём у падлогу, забрынчэла, дрыжучы і ківаючысь з боку на бок, а падняўшы саблю прастагнаў, сунуўся на зэдлік, перакуліў яго і пакаціўся сам на падлогу.

На вуліцы стрэлы, сумяціца. Замітусілілася ўсё ў хаце. Вось яшчэ некалькі стрэлаў у вакно... Мотэль стаіць і зьдзіўленымі, яшчэ поўнымі жудасьці вачмі пазірае наўкол.

Адчынілась дзьвер, нехта парог пераступіў, у руках наган дыміцца .

І раптам кінулісь усе: і Мотэль, і старая маці, і Рыва насустрэч гэтаму чалавеку.

— Міхась!.. даражэнькі! .

— Наш Міхась!. Мой каханы...

Неспадзяваная радасьць зьмяшалась з цёплымі крышталь-нымі сьлязьмі, сьлязьмі шчасьця і вызваленьня...

А на вуліцы чырвонаармейцы разбройвалі апошніх балахоўцаў

У гэты дзень стары Мотэль забыўся вечарам запаліць шабасовыя сьвечкі, забыўся таму, што ня ў іх полымі ён бачыў цяпер шчасьце і праўду жыцьця.

* * *

Шэсьць год прайшло з таго часу. Паменшыўся лік шаўцоў і краўцоў у мястэчку. Большасьць іх працуе ў сельскагаспадарчых арцелях, якія тут-жа зьмясьцілісь, каля мястэчка.

Сора Гілерава ня носіць болей сахарыну па вёсках, яна капаецца кожны дзень на гародах арцелі, поліць і палівае гуркі, капусту, абкапвае бульбу, доіць кароў. Абрам па стараму цэглу паліць, толькі ўжо на добрым, абсталяваным заводзе арцелі Як і раней, кожны дзень паведамляе знаёмых Абрам:

— А мой сын на агранома вучыцца, на апошнім курсе цяпер...

А Міхась, о, ён тут жа, у мястэчку, працуе ў каапэрацыі, арганізаваў ячэйку партыйную. Ранейшыя шаўцы і краўцы, працуючыя цяпер у арцелях, называюць Міхася ня йначай, як

— О, гэта наш дарагі хавар, ён шмат чым пасобіў нам у жыцьці...

Міхась жыве ў адной хаце з старым Мотэлем, які, як і раней, сучыць дратву, чабаты ш'е Лапікаў цяпер менш, больш новае ш'юць. Каля Мотэле часта маленькая дзяўчынка гуляе, падбягае к яму, заводзіць з ім дзяцінныя гутаркі.

— Ну што, Дзіначка, скажаш?

— Узо, дзедуска, абедаць тлеба, хадзі, мамка звала...

Адкладвае Мотэль чобат, бярэ на калені ўнучку, цалуе, песьціць, кучаравыя валосікі гладзіць. Чорныя валасы, чорныя бровы, а вочы—блакітныя ..

— Гоя майго любага вочы—шэпча дзед і цалуе маленькую ўнучку.

Зірнець з па за дзьверы Рыва, усьміхнецца.

— Ну, хадзі, татка абедаць, і Міхась прышоў ужо...

І ідуць гады чарадой нясупыннай. Новыя годы лечуць жыцьцё, зажыўляюць мінулага раны. І калі запытаюць старага Мотэля:

— А як жыве Рыва, зяць?

адказвае:

— О! Мой зяць.. —за шчасьце—б кожнаму мець чалавека такога...

# ВЕРШЫ РЫГОРА СУНІЦЫ.

* *
*

Мы пад старасьць
Ой, ды не састарымся;
Мы пад старасьць
Будзем маладзей.

Ці-ж у нашым жыцьці
Можна быць старымі,
Радасьць даастатку
Выплескаць з грудзей!?

* *
*

Хай завеі
Завіхураць зьмеямі,
Пасягне хто ўкрасьці
Чырвань нашых дней,—

Кроў наша у жылах
Ой, не пасінее,
Яна стане
Толькі чырваней.

* *
*

Нашы-ж сэрцы
Б'юцца комсамолам,
І буяніць песьняй
Маладняцкай кроў,

Дух наш, верце,
Скача баскетболам,
І спрунжыніць цела,
Нібы той футбол

# Эх вы, думкі...

Эх вы, думкі золатазвонныя,
Эх ды стромені бяздонныя,
Век крынічыць у вас моладасьць
Няўміручая, разгонная.

Вы, бы шыр-палі бязьмежныя,
Нібы моры безьбярэжныя;
У вас сіла—сіла волата,
Ўсё у сьвеце вам падлежнае.

Вы й гарача—сонцавейныя,
І віхурыста—завейныя,
Б'еце вы па часу молатам,—
Іскры ў сьвет лятуць надзейныя.

# Раніца.

Рана, рана,
Шчэ ня ўзыйдзе сонца,
Сьцежкай знанай
Полем іду ў бор.

Сьвет далёкі
Расчыніў ваконцы;
Душа рвецца
На простор

* * *

Па нізінах
Сьпяць яшчэ туманы,
На расьлінах
Зіхаціць раса.

Вабіць дальлю
Сьвет нязнаны;
Золак багровы—
Краса!

* * *

Каля рэчкі
Ня шумяць чароты,
І над грэчкай
Пчолы не гудуць.

Дыша раньне
Пахам сотаў,
Захад смокча
Шэрань-муць.

* * *

Сонейка праменьнем
Глянула з-за гаю,
Ўсім стварэньням
Кліч падала:—жыць!

Эх, зямелька,
Родны краю,
Як вас
Не любіць?!

# ВЕРШЫ С. ГОЛУБА

## Лес.

Падзівіцца проста люба!
Ёлка, хвоя, дуб, клянок,
Вось бярозка, кусьцік граба,
Там рабіна і вязок.

Усё расьце, расьце высока,
Гольле—быццам парасон,
І карэньне шле глыбока,
Каб ня вырваў вецер вон.

Ой, ня раз з сярдзітым ветрам
Ваяваў лес на жыцьці,
Навальніцу з моцным громам
Ты спыняў на ўсім пуці.

Як закруціцца ды стукне
Яна зьверху пяруном,
Тваю голаў долу схіліць,—
Ты-ж ізноў гаспадаром.

Ты ізноў шуміш і вабіш
Сваёй дзіўнаю красой.
Ой ты лес, ты лес магутны,
Ты наш край пакрыў сабой.

## Дождж.

Кропелька за кропляй
Ціха і павольна
З хмаркі цемнаватай
Льлецца ўсюды роўна.

Трэба дождждык глебе,
Лесу, траўцы й збожжу,
Каб жыцьцёвым сокам
Зарунець прыгожа.

Каб прыбрацца гожа
Полю й сенажаці,
Апрануцца ў зелень,
Лепш на сонцы зьзяці.

Павірае збоку
Сонейка на хмары,
Што дажджом—расою
Сыплюць на абшары

Кропелька за кропляй
Ціха і павольна
Па зямельцы далей
Сыплюцца скрозь роўна.





Арына Глінская.

## Беларусі.

Ты прасьці, прасьці мяне лапцюжная..
Даганяе вецер бег калёс...
Я цябе кахаю шчыра, дужа,
Але мне застацца тут ня лёс.

Я іду сваёю пуцявінай,
Адплываю к новым берагам,
Там убачу новыя краіны
І надоўга застануся там.

А ў грудзёх навекі застанецца
Шыр палёў тваіх і даль лугоў..
Слова песьні роднай ў сэрцы адгукнецца
Нават там, у дальніх берагоў.

Мілы сэрцу сонечныя песьні
Беларускіх родных песьняроў,
Гэта сьпевы птушак на прадвесьні,
Гэта радасьць, зажыгаючая кроў...

Буду помніць родныя балоты,
Ціхіх рэчак галубы абрус,
І калі мяне спытаюць: „Хто ты?“—
Адкажу з каханьнем:

*„Беларус!“*

Ленінград 2—IX.

**Рыгор Сьмелы.**

* * *

Пасьля грому і зыркай маланкі
Пасьля шуму ад той навальніцы,
Ой, вы думкі мае саматканкі,
Мне да з вамі нідзе не спыніцца...

Я ляцеў-бы за чорнаю хмарай,
Засланіўшую сонца праменьні,
Паляцеў бы на тыя абшары,
Дзе чакаюць яшчэ вызваленьня.

Заляцеў бы к замежнаму брату,
Працягнуў мазалёвую руку,
І на зло ненавіснаму кату
Пазьвінічвыў-бы ланцужныя гукі.

Узбадзёрыў-бы ў сэрцы мяцежным
Пачуцьці словам братнім вясёлым,
Каб пачуў мяне брат мой замежны
І узгарэўся ў ім дух комсамола.

Не нудзісь-жа, ня падай, брат, духам
І ня думай, што вечны засовы,—
Разьляцяцца яны прахам—пухам
І збудуеш ты сьвет сабе новы.

## Васілёк.

* *
*

Грукоча,
Стукоча
Стальны ваўкалака,
І вочы
Уноччы
Уперад вужакай,
Ляцяць,
Зіхацяць
На чыгунныя рэйкі,
Дзе колы
Вясёла
Складаюць прыпеўкі.
Шыпіць
І сапіць
Чараўнік паравоз,
Жар—птіцай
Імчыцца
Між сосен, бяроз.
Вагон
Наўдзагон
Адзін за другім
Стралою
Вяселай
Нясецца скрозь дым.
А сосны
Дзівосна
Бярозкам кудравым
Шапочуць
Уноччу
Пра дзіўныя зьявы.
Пра казкі,
Што з ласкай
Ім ветрык прынёс,
Пра шлях
На палях,
Куды ўбёг паравоз.

**Міхась.**

## Чуткі.

— Ох, ох... ох...
— Чаго ты?
— Да, бачыш умарыўся...
— Хіба малаціў?
— Які дурань цяпер малоціць, хіба восені не было... Бачыш, чуць дабег да каапэратыва.
— Дык чаго цябе ліха нясло—можна-ж шагам дайсьці, хіба сабака шалёная ўсьлед бегла?
— Да не, бачыш, справа зусім другая. Прыходзіць гэта жонка мая ад кумы (у піліпаўку хрысьціла), а кума казала ей, што яе швагеркі пляменьніца чула ад дваюраднай сястры, якой казала свацьця залоўкі Банадысёвай, што, нібыццам, вайна падыходзіць, ужо, здаецца, каля самага Глуску. І прыметы, жонка казала, самыя пэўныя: нібыццам у Слабадзе певень на яйцы сеў і тры разы кукарэкнуў Да й старшыня сельсавета масты надумаўся чыніць, а хіба гэта не к вайне. Дык вось я і прыбег з мяшком за сольлю, трэба запас зрабіць...

* * *

— Адважце мне хутчэй солі ..
— А колькі хунтаў?
— Да ня хунтаў, а пудоў дзесяць.
— Што-о-о .. ці ні кабаноў к пасцы біць надумаліcь?
— Не да кабаноў тут мне, калі вайна пад носам...
— Чаго-о-о..
— А вайна запрайды ўжо пад самым каапэратывам. І старыя і малыя з мяшкамі, з мяшочкамі, з кайстрамі абступілі каапэратыў, каб хутчэй дабіцца солі

* * *

— Сынок ты мой даражэнькі, каласок ты мой ячменны, выйдзі ты з гэтых пінэраў—угаварвае матка сына піонэра.
— Ніколі, мамка, ня выйду.
— Галубок ты мой шызакрылы, не губі ты сваёй галаванькі. Прыдзе вайна, не сягоньня, заўтра забяруць цябе ў камандзеры...

— А хоць сабе ў енаралы, мамка, дык я не баюся...

— А цябе-ж заб'юць

— Я сам заб'ю

— А маё ты ліха—лішанька, а што з табой рабіць, не прызнае супастат вайны ..

— Не прызнаю, мамка, бо гэта вялікая хлусьня.

Малы быў праў

---

## Набожны гаспадар.

Набожны чалавек Прохар... Ступіць крок і кажа: „Господзі памілуй ..“, ступіць другі: „Падай, господзі.. “, бульбіну зьесьць: „бла-а-дарым ця саздацелю ..“, ложыцца спаць: „амінь і алілуйя, алілуйя і амінь ..“

Вось раз раніцой у піліпаў пост атвярнула жонка Прохара палавінкі на стол, гуркоў прынесла з рассолам—сеў Прохар сьнедаць. Перахрысьціў адну бульбіну, зьеў, цярэбіць сьнеданьне

Як раз жонка кароў падаіла, нясе малако. Зірнуў Прохар на гладышы і ўжо шэпча: „не ўвядзі мяне, господзі, у спакусу!..

А тут жонка і кажа:

— Даражэнькі мой, мо“-б ты малачка крыху зьеў, бо як я бачу, загоніць пост цябе ў дамавіну, зірні, на каго падобен—скура да косьці, высах, як лапаць той, альбо брыль скурацяны.

А Прохар ужо шэпча: „сьвят, сьвят, сьвят господзь саваоф, да растачацца ўразі яго . “ і да жонкі:

— Не ўвадзі мяне, Аўдота, у грэх, да падумай і сама аб душы сваёй, бо ведай, не пашануюць у пекле чэрці грэшнікаў, прыпякуць шворнам зялезным ..

Ня есьць малака Прохар, ня есьць і Аўдота—гатуюцца ў рай папасьці А малака з кожным днём усё болей і болей. Вось гладышоў са трыццаць сабралась, некаму есьць—трэба пасьціць, бо, як кажа Прохар, сам Хрыстос у пустыні сорак дзён і сорак начэй пасьціў, а нам грэшным і бог вялеў.

І пачало малачко псавацца, пах ад яго цяжкі пашоў, непрыемны... Кідаецца Аўдота: „а божачка мой, тухлее малачко, псуецца—ні сыру табе, ні масла ня ўбачыш...“

І сказаў Прохар: „Аддай, Аўдота, малако сьвініям маім, няхай пад'ядуць і узрадуюцца і васхваляць господа маяго“.

Шэсьць парсюкоў было ў Прохара і кожны пудоў па шасьці, златашылі яны малачко, уцурболілі, златашылі і аб'еліся Аб'еўшыся спадобілісь царствія нябеснага, – падохлі грэшныя пад плотам асінавым. І сказаў Прохар:

— На ўсё твая сьвятая воля, госпадзі. Амінь.

---

## Ізноў у лазьню паехаў...

— Дарогу, дарогу!

— Гэй, беражысь, раздавім!

Па вуліцы, як кажуць, дым слупам, пыл каромыслам... З громам, з трэскам імчыцца машына пажарная і на ей, нібыццам Ільля прарок, сядзіць Ціхон—заўхоз пажарнай дружыны, паганяе кабылу і крычыць – раве ні сваім голасам:

— Дарогу, дарогу, беражысь, раздаўлю...

Ну, чым ні пажар. Але што за цуда. За машынай хоць бы хто-небудзь пабег ці з вядром, ці з багром, ці з сякерай шчарбатай. А ні ні, ані воднага чалавека, хоць бы табе бабка якая з купінай неапалімай ці з траяручыцай, дык і той за вярсту ня ўбачыш.

— Мусіць далей дзе-небудзь пажар—падумаў я і ўбачыўшы сівенькага дзеда, калупаўшага па прызбе лапаць, і запытаў яго:

— Дзед, а дзед! Дзе гэта гарыць?

— Ась ..

— Гарыць дзе?—пытаю.

— Соль табе ў вочы, галубок мой, нідзе не гарыць

— А вун жа машына паехала..

— А-а .. Машына... Дык то не на пажар То Ціхон паехаў у лазьню ваду качаць ..

— Чаго?

— Вядома, чаго, мыцца.

* * *

Прызнацца, хто ня любіць лазьню... Кожнаму прыемна папялёскацца ў вадзе і, асабліва, венічкам папарыцца, пахучым венічкам, бярозавым. Чым болей пара тым, лепей. Так гэта і млееш, цяпло пячэ, цяпло прыгравае, ад веніка майскімі кветкамі пах струменіць, у нагах пацягунчыкі райскія, а венічак толькі:

— Па-па-па, па-па-па...

Але бачыце, венік бяз мыла—кепская справа. І мая думка: калі не намыліць хто-небудзь галаву Ціхону (каб была чысьцей), дык можа здарыцца і такая зьява — ну, будзе часам пажар, самы запраўдны пажар. Паедзе па вуліцы і пажарная машына, каб агонь тушыць, але ніхто ня возьмецца за багор, ніхто за вядром не пасунецца і кожны, зірнуўшы на машыну, ляніва і бязучасна гэтак скажа:

— Ізноў Ціхон у лазьню паехаў...

---

# Пярунавод бабкі Юстыны.

Стары, як корч асінавы, Ільля прарок, трэба даўно у дамавіну, але не пакідае ён выкідваць розныя штукі. Запражэ іншым часам свае сухарэбрыя падлы-коні ў агнявую калясьніцу, вожкі ў рукі, „но-о... стаеньнікі!..“ і паехаў вандраваць па небу.

Вядома, калясьніца старэй ветхага завету, нямазаная, скрыпіць, гірчыць, грухоча й ляскоча па хмарах, аж моташна робіцца людзям, страх іх бярэ.

Толькі бабка Юстына не баіцца Ільлі—ведае нагаворы, малітвы сьвятыя супроць пяруна і маланкі. І вось і цяпер, як толькі насунулась навальніца, адчыніла Юстына комін, выцягла з за багоў высахшую як порах вярбу сьвятую, паламала на часткі і на прыпячку цяпельца з яе разлажыла.

Ільля грыміць, Ільля злуецца, бліскавіцы—маланкі пускае, а Юстыне хоць бы што, стаіць ля прыпечку, хрысьціцца, ды шапоча:

Ільля, Ільля,
Не рабі гнільля,
Вярба сьвята,
Ня бі ў маю хату.
Ільля, Ільля,
Не рабі гнільля.....

Тут раптам як блісьне нешта, як пекане ў комін, Юстына і пакацілась. чуць, чуць ні акачурылась, добра—суседкі адхалі. Цяпер і не памінай ёй пра Ільлю.

Ат, гіцэль стары, яшчэ ў праракі запісан, каб яму ня выхварэць на тым сьвеце. Вярбы і тае не паслухаў, а яшчэ, кажуць, сьвяты-ы...

Разуверылась Юстына ў Ільлі, не давярае больш і вярбе сьвятой.

---

# Пісьманосцава гора.

— Рату-у-йце, браточкі, галубочкі мае, сьмертачка мая падышла..

Калі-б хто-небудзь з нас пачуў такі крык, дык вядома, падумаў-бы: „Ці ня рэжа хто нажом шчарбатым душу чалавечую і яна ўпіраецца, ня хоча па добрай волі лезьці бяз часу па прасторы нябесныя“.

Але, калі ў засьценку Парэчча сяляне начуюць гэты сьмяротны ёкат, кожны радасна ўсьміхаецца, пачэша хрыбет салодка і кажа адзін другому:

— Ага! Гэта сягоньня почта.. Мусіць Ляксей газэты прынёс. Пайсьці, хіба, адратаваць хлапца, да пачытаць навіны, што там газэта піша.

А на вуліцы ў той час вайна пісьманосца з сабачым фронтам. Бяжыць ён гарэтнік, нічога перад сабой ад страху ня бачыць і толькі й думае, як бы хутчэй на вярбу ускарыскацца, адратаваць ад сабачых зубоў нагавіцы свае, да почту сялянскую.

А ўсьлед віхрам імчыцца сабачая стая і брэша так, што ўсе ваўкі ў лясох разьбягаюцца. За сумку зубамі хапаюць, нібыццам і ім хочацца пабачыць газэты, раскусіць сабачым зубам палітыку міжнародную і гаротную пісьманосцаву штаніну.

* * *

Пачытае гэта селянін з Парэчча, да й скажа часам:

— Эх, Міхась, Міхась, да чаго ты дажыў.. Бач сабакамі заняўся, хіба яны цябе чым пакрыўдзілі, што ты на іх такі паклёп узводзіш...

Ведаеце, мне і самому не хацелася пісаць пра іх, бо як ні як, сабака не абы што, а бліжэйшы таварыш чалавеку, але, ці мне-ж хочацца, каб маё слова перад тым, як папасьці к чытачу, пападала-б раней у сабачыя зубы...

---

# „Шапату, шапату—ліха твайму жывату“.

Фэльчар Перапечкін папалуднаўшы надумаўся крыху адпачыць і ўжо сьцягнуў з сябе розныя вопраткі, каб залезьці на ложак. Толькі ўзабраўся ён пад коўдру, як моцны стук у дзьвер так напалохаў яго, што ён чуць не надзеў парткі назад гузікамі.

— Што табе, галубок?—запытаў фэльчар.

— Да я.. я... ратуй хутчэй жонку, бо зусім гіне, прыдзецца, пэўна, удаўцом застацца...

— Да што там здарылась з тваёй жонкай?

А хто яе ведае, здаецца, з пузам нешта няладнае робіцца але там паглядзіш. Бяры хутчэй струмэнты, ды лякарства, ды пабяжым хутчэй.

Вось і хата Буры. Пераступіў парог фэльчар і астаўпянеў.

На ложку ляжала жонка Буры, на голым пузе стаяў вялічэзны гаршчок (заместа банкі), які уцягнуў у сябе ўсё бруха і здаецца, калі-б не прыйшоў хутка фэльчар, дык застаўся-б Бура ўдаўцом, сьцягнуў бы той гаршчок яго жонку ня толькі з пузам, але з галавой.

Кабеціна моцна стагнала, часам голас яе заміраў і толькі чутны былі яе словы: „Ратуйце, даражэнькія...“.

— Цярпі ягадка моя, перацерпіш—ўсё добра будзе—угаварывала кабеціну нейкая бабка гадоў пад 140, якая шчэ помніла, як Ева спакусіла Адама на яблыкі.

— Няма моцы трымаць, мая бабачка, млосна мне, цяжка мне, —шэпча хворая.

— Цярпі, галубка, цярпі, бо й Хрыстос цярпей, а ён жа быў сынам божжым...

Шмат яшчэ бабак круцілась каля хворай. Толькі й чутна было:

— Бабка Аўгіньня, бяры таўкач ад ступы, ды пакатай каля пупа, хворай і палягчэе.

— Ды не бабынькі, няхай Арына пашэпча на пупавіну, а ты, Сынклета, ідзі да загнеты, вазьмі вугалёк, палажы на гаршчок, спрысьні сьвятой вадзіцай, вось хвароба трохі пазьліцца ды й уцячэ да зяленага гаю...

— Ой... ой... уміраю...—крычыць хворая.

Каля трох бабак (з якіх, як кажуць, пясок сыплецца) шэпчуць: адна над вадой, другая на кіпець, трэцьця на мышыны хвост. Толькі й чутна:

— „Шапату... шапату... ліха твайму жывату“...

— „Ой... ой... не ў магату“,—крычыць хворая.

* * *

У хаце, як бачыце, поўная „кансультацыя“ бабак, шаптух, павітух і г. д. Тоя самая і на двара. Там робяць лякарства. Тры бабкі выжымаюць у шклянку вадзіцу з гною, каб потым папаіць хворую.

Запытаўся наш фэльчар, па якому рэцэпту гатуюць яны лякарствы, дык яны такія рэцэпты сказалі яму і нават паказалі, што і пісаць пра іх ня буду, бо трохі яшчэ я з хлапцоў сарамлівых.

* * *

Сабраўшыся з сіламі і запугаўшы міліцыяй фэльчар разагнаў ўсіх шаптух і вызваліў хворую ад гаршка.

Бура ня будзе ўдаўцом.

---

## Камітэцкае...

Сабіраюць па 20 капеяк у камітэт узаемадапамогі.

— Ну, Іван, давай дваццатку на камітэт.

— А, бра-а-тачка... а дзе-ж я знайду, хіба апошнюю курыцу прадаць, дык жонка ня дасьць...

— Даволі хлусьню разводзіць, знашоў-жа ты ўчора грошы на вечарынку і на самагон..

— А, бра-а-тачка... і прыраўняў жа ты зайца к блысе, то-ж вечарынка, а то камітэт там нейкі...

— Дык не дасі?

— А, бо-о-жачка, во прывязаўся, як смала тая, хіба дзяцей аддам, ці жонку прадам, бачыш, мукі на печава няма, а ён суецца тут са сваім камітэтам. Прыдзі ты, галубочак, хіба другім летам.

---

## Не цалуй дзед, у пісталет—а нясі грошы у касу...

Зароў дзед Іван Крычко не сваім голасам:

— Ра-туў-це, браткі. .

Крычыць, галосіць небарака, рве валасы на галаве. Словам, нібыццам, звар'яцеў пад старасьць Зьбегліся суседзі, дзівяцца, пытаюцца:

— Што з табой, даражэнькі, можа хто ўбівае цябе?

— Ра-туй-це, хто ў бога веруе...

— Ды кажы, дзед, у чым справа, чаго крычыш, як на пажар?

А... бра-бра-точ-кі... мае... ратуйце: грошы мае зладзюгі пакралі...

— І золата?

— І золата, дзьвесьці рублёў выцягнулі, каб-іх самых выцягнула...

— Хто-ж пакраў?

— Ды свае-ж, каб ім больш ня жыць, сыны да нявесткі, трасца ім у бок...

Суседзі абступілі дзеда. Кожны жалкуе, дае саветы. Ня жарт—дзьвесьці рублёў, ды шчэ золатам Калісь дзед ня спаў, ня еў—усё зьбіраў грошы ды адкладваў іх у панчоху. І цяпер, на табе, грошай і няма.

— Калі хочаш увазнаць злодзія, дык няхай усе сыны і нявесткі робяць на эвангэліі прысягу. Адразу ўвазнаеш.

Сказана—зроблена.

* * *

У куту на стале эвангэліе. З боку стаяць поп і дзяк. К сталу па чарзе падходзяць сыны і нявесткі, цалуюць божае пісаньне і кажуць „прысягу„.

Вось, падышоў адзін:

— Ва імя айца і сына... Каб мне з мейсца ня ўстаць, каб мяне пярун пабіў, калі я хоць бачыў гэтыя грошы...

Другі:

— Ва імя айца і сына... Няхай мяне маланка сьпячэ, шалёны конь убрыкне, ці скула на языку сядзе, калі я браў толькі грошы.

Нявестка падходзіць:

— Госпадзі-божухна, сьвяты Мікола... Няхай мне язык адсохне, ці нага закульгае, калі-б я толькі падумала красьці грошы.

Другая:

— Няхай мне чорт прысьніцца, і бруха распухне, калі-б я... (і г. д.).

„Прысяга“ скончана, а злодзія... няма. Што рабіць. Дзяк саветуе дзеду:

— Вядома, тут справа вялікая, адной прысягай не абойдзешся, трэба другую, больш страшную, ідзі, дастань заражаны пісталет, палажы яго на стале, няхай зноў прысягаюць і цалуюць пісталета ў дула. Хто злодзі, таго пісталет уб‘е.

Але дзед не згадзіўся на такую пісталетную прысягу, бо яна абайшлася-б яшчэ даражэй, чымся ранейшая. Аднача, ён заказаў яшчэ малебен, штоб праклінаць злодзія. Памоліцца шчэ дзед, а можа тым часам нябесны „уголовный розыск“ і знойдзе злодзія.

Здарылась-жа гэта пра зто, што дзед забыўся пра дзяржаўныя зьберагаўчыя касы, а хаваў грошы ў гаршку да ў старых панчохах.

# ХРОНІКА

**Сувязь з заграніцай.**

Цэнтральнае бюро Маладняка праз таварыства „Культурная сувязь з заграніцаю“ паслала для абмену ва ўсе буйныя цэнтры Эўропы 280 экзэмпляраў кніжніцы „Маладняк“.

**Новыя выданьні.**

⁂ У хуткім часе выйдуць з друку наступныя зборнікі маладнякоўцаў: „Вясковыя рыскі“ Ю Гаўрука, поэма М. Чарота—„Ленін“, зборнік апавяданьняў М. Зарэцкага—„42 дакуманты“, зборнік вершаў Ал. Дудара—„І залацісьцей і сталёвей“, зборнік апавяданьняў Р. Мурашкі—„Стрэл начны ў лесе“ і зборнік вершаў Валерыя Маракова—„Пялёсткі“.

⁂ Здадзен у друк зборнік Джэка Лёндона—„Нязвычайны адрывак“ у перекладах маладнякоўца А. Мардвілкі.

⁂ ЦБ „Маладняка“ рыхтуе да друку твор праф. Барычэўскага—„Тэорыя санаты“.

Дагэтуль на нашай мове ня было падручніка па гэтаму пытаньню.

**Якіх выданьняў няма на рынку.**

За апошнія часы некаторых маладнякоўскіх выданьняў трудна знайсьці—іх раскупілі. Так, напрыклад, у сучасны момант на кніжнай базе не засталося такіх выданьняў: Анатоль Вольны, А. Александровіч „Комсамольская нота“ (колектыўны зборнік вершаў), Ул. Добоўка „Там,дзе кіпарысы“ (поэма), К. Чорны (апавяданьні), А. Бабарэка (апавяданьні), Я. Пушча „Раніца рыкае“, „Маладняк Я. Купалу“.

**Творы маладнякоўцаў на яўрэйскай мове.**

Менская яўрэйская група паэтаў „Юнгер Арбэйтэр“ мае выдаць на яўрэйскай мове 7 аркушаў твораў маладнякоўцаў.

У першую чаргу выйдуць пераклады рэвалюцыйнай рамантыкі (Зарэцкі, Чарот, Александровіч і інш.).

## ЗЬМЕСТ.

# ПАМЫЛКІ ДРУКУ

(Самыя буйныя)

| Старонка | Радок | | Надрукавана | Павінна быць |
|---|---|---|---|---|
| 21 | 1 | зьверху | Я ніколі наре скуся | Я ніколі не скаруся |
| 27 | 14 | зьверху | напяіла | напаіла |
| 27 | 1 | зьнізу | начай | іначай |
| 29 | 7 | зьверху | аўцы | оўцы |
| 30 | 23 | „ | пералі амі | пералівамі |
| 51 | 1 | „ | плакала Рыва | І плакала Рыва |
| 54 | 1 | „ | стары | Я стары |
| 54 | 3 | „ | будзс | будзе |
| 56 | 15 | „ | ўцягчэ | ўцячэ |
| 59 | 3 | „ | вацно | вакно |
| 60 | 10 | „ | здалоньню | далоньню |
| 65 | 21 | „ | буняіць | буяніць |
| 77 | 23 | „ | панярэдзіць | папярэдзіць |